УДК 821.161.3-1
ББК 64(4 Беи)
Б 90

Бялячыц, Р.

Б 90 **Пах** зорки / Рычард Бялячыц. – Гродна : ТАА «ЮрСаПрынт», 2019. – 176 с.

ISBN 978-985-28-8-10.

Кніга паэзіі Рычарда Бялячыца, складзеная з твораў апошніх трох гадоў, запрашае чытача зазірнуць у мінулае Бацькаўшчыны, па-філасофску падысці да жыццёвых з'яў сучаснасці, запыніцца на лірычнай пачуццёвай ноце.

Паэма "Літоўка" натуральна "вырасла" з-пад Навагрудка ў вобраз жанчыны, якая нараджае, засцерагае, ідзе па зямлі з часоў Сярэднявечча ў нашы дні.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 64(4 Беи)**

**ISBN 978-985-28-8-10**

***

Узгоркі,
Дзікія паляны
І набярэжная з табой –
Той гарадок прыстасаваны
Пад наша свята
І любоў.

Каб загучала наша слова,
Няшмат патрэбна –
Час і слых,
Усход свяціўся каляровы
І не было паглядаў злых.

Няхай звініць пад небам конік
Праз дзень увесь,
На схіле дня.
Як трэба будзе –
Засупонім
І асядлаем мы каня.

А там, на роднае паляне,
Куды вядзе аж сто дарог,
Свяцілца дзень не перастане,
Прыгубіць чарку
Нават Бог.

***

Калі глыбінна думкі сталі
І ззаду ўжо дарогі круча,
Тады падыдзе зверху тая
Ў табе адказнасць
Немінуча
За памінулыя стагоддзі,
Што на плячах далёкіх продкаў;
За шлях, які маланкай пойдзе,
І за птушыны век кароткі;
За светлы дзень і даўгаполы…
І вось, урэшце, прад усімі
Ты засаромеешся ўголас
Сказаць два словы:
– За Радзіму.

# Яго праўду

*Кастусю Каліноўскаму*

Па-над краем гучыць шматгалоссе
Маладое
Радзімае
Боскае.
Дачытаць усяго засталося,
Як і жыць,
Кастусю Каліноўскаму.

Кат маўчыць, непарушны і пільны.
Сакавік…
І яна, чорнабровая,
Нібы зорка
За момант ад Вільні
Па-над сіняю-сіняю прорваю.

Наплывуць яго лета, Каляды.
Пажывём на старонках сустрэчаю,
Каб затым дапісаць
Яго Праўду
Неўміручую,
Простую,
Вечную.

# Масленіца

Як дзеці, радасныя мы,
Ні сваркі побач і ні звады.
Палілі пудзіла зімы,
А снег ляцеў, кружыў і падаў.

На снезе музыка жыла,
Вось-вось распутніца абдыме.
І ад твайго ва ўсю стала
Блінамі пахнула
І дымам.

Зямлю пакрые снег густы,
І светла нам ад словаў белых.
Зімы шкада,
Сняжынак тых,
Што да цябе не даляцелі.

Дарогі знікнуць пакрысе.
А я да шчасця і да волі
Па першым снезе,
Па расе
Ісці
Не звыкнуся
Ніколі.

***

Вершы прысвячу на ноч камусьці,
Бы раскалышу ў рацэ ваду.
А сабе самотныя пачуцці
Зноўку пад падушку пакладу.

Век такі, што вершы непатрэбны
І пачуцці сціплыя мае.
А зіма халодным ціхім срэбрам
Галавы пакрыху дастае.

Ды сакраментальна льюцца словы,
Лёгка і світальна ад таго…
З вуснаў насцярожана-мядовых
Мне хапіла слова аднаго.

# Ля помніка ў Лідзе

З эпохай той утульна мне,
Усё бліжэй яна патроху.
З гадамі бачацца ясней
Радзімы вечныя дарогі.

Святла і цемры на мяжы,
Бы прад нябеснымі дзвярыма,
Прайшоўшы свой
І край чужы,
Стаіць раз'яснены Скарына.

Вялікі свет.
Ісці куды,
Дасюль не кожнаму вядома.
Яго ж чакалі праз гады
Заўжды,
Нібы святога,
Дома.

Былая ляда.
Замкаў час.
І чалавек,
Святлом пакрыты,
Што з кніжкі першае штораз
Нам прагаворвае малітвы.

***

Гады да гадоў – юбілей,
Вякі да вякоў – гэтаксама.
А як палічыць іх далей,
Напэўна што, ведае мама.

Душа маладая яе
На час і на зоры багата.
Чым далей,
Тым больш не стае
Яе напамінкаў пра святы.

# Мая чарга

Я зразумеў,
Няхай няскора,
Што праз прызнанне і дакор
Мая чарга глядзець на зоры
І не маўчаць між светлых зор.

Мая чарга любіць прасторы,
Што па-над Нёмнам і Дзвіной,
Той помніць дзень,
Ужо каторы
Не будзе побач больш са мной.

Прыехаць вечарам дадому
І да наступнае зары
Казаць табе, што анікому
Яшчэ дасюль не гаварыў.

Пад небам чыстаю рукою
Сняжынкі доўга прыручаць.
І прад навалаю сляпою
Не адымаць свайго пляча.

Прыйшла пара зімой і ў леце
Мая
Хоць на адной назе,
Пакуль на небе сонца свеціць,
Стаяць
Да Вечнасці ў чарзе.

# Палац творчасці

Маўчаць блакітным вокнам годзе,
Калі, душою маладое,
Тут дваццаць першае стагоддзе
Жыве ў палацы над вадою.

Былыя дні на фотаздымках,
А на прыступках крокі, крокі.
І выплывае з ранняй дымкі
Палаца верасень высокі.

Узмах – і гукі паліліся,
Спыніць імгненне ім магчыма.
І дакрануцца можна высяў
Рукой і добрымі вачыма.

Адсюль, акрыленая песняй,
Ляціць душа за далягляды.
Раяль махне крылом прадвеснім,
Яе чакаць ён будзе рады.

Не думаў Штраус,
Не здагадаўся,
Не знаў Агінскі,
Што пад зоркай
Магчыма так кружыць у вальсе,
Так па Радзіме плакаць горка.

# Велікодныя свечкі

Космас кожнаю зоркай замрэ,
Паплыве над зямлёю павольна.
Велікодная ноч на двары
І са мной мая верная поўня.

Вось над намі,
Над краем ужо
Збаўца наш,
Што цярплівасцю вечны.
Як жыццё,
У руках сцеражом
Ад вятроў
Велікодныя свечкі.

# Сябру

Зразумела,
Смела,
Сімпатычна
Думаў, як калісьці каралі.
Пры сучаснай сувязі касмічнай
Знік з эфіру сябра на зямлі.

Клікалі ў застолле што ёсць духу,
Верылі дарожнаму агню.
Проста быў паэтам ён
І слухаў
Госпада самога
Цішыню.

***

Напэўна, лёс ужо такі,
Не будзе іншага мне выйсця:
Ізноў палю чарнавікі,
Шкадую моцна, як калісьці.

Трымаю палкай, каб яны
Не разляталіся па волі.
Згараюць воблакі і сны
І толькі ростані – ніколі.

Палю, нібыта што змяню.
Паперкі скурчыліся, звялі.
Нібыта заўтрашняму дню
Яны адны
І заміналі.

Свет да мяне, здаецца, звык,
Я да яго стасункі маю.
І спахмурнелы чарнавік
Былога стосік
Зачынае.

# Павучынка

Падаў снег.
Была свая прычына.
Дождж пра еднасць клапаціўся.
Павучынка першая злучыла
Неба і зямлю,
Лугі і высі.

Тонкую і лёгкую,
Без жалю
Загубіць яе вятрыска меўся,
Ды ў паветры музыка гучала,
Ратавала вершам паэтэса.

Покуль сакавік са стрэхаў цінькаў,
Павучынка залацінкай стала,
З мамінае выцвілай хусцінкі
Ў неба запляталася памалу.

# Фартэпіяна

Падорыць час
І забярэ
Жыцця святога шматгалоссе.
Фартэпіяна пад арэх
З часоў далёкіх засталося.

Маўчыць яно.
І цішыню
З карцінаў слухаюць вяльможы.
Дню аканіцы адчыню,
Святло аздобіць тайну, можа.

Быў час,
Як сонца пакрысе
Да гукаў лашчылася ў зале.
І кампазітары ў чарзе
Прад ім
Узвышана чакалі.

Вось-вось у небе падбярэ
Сваю мелодыю,
Як птушку,
Фартэпіяна пад арэх
Часоў Станіслава Манюшкі.

***

Высока над краем сябе прыўзнялі,
З касмічнай каталіся горкі.
На нашых і вашых
Дзяліць пачалі –
Кашчунства над словам.
І толькі.

Над рэчкай туман,
Па-над поплавам дым
І невядомасць за лесам.
Празаік у спісе самотным адным,
У іншым цяпер паэтэса.

А сэрцу не церпіцца волі, агню,
Радок заварушыцца ўдалы.
Маўчыць драматург.
Можа, упершыню
Пакутуе ён над фіналам.

Пабачыць хацелася кожнаму знак
Удачы
Часінаю дрэннай.
Валун не заплача ніколі ніяк,
Маланка не пусціць карэнне.

# Прасвятленне

Які ж быў дурны малады,
Таму што адкладваў на потым
Садзіць прад дарогай сады
І браць задушэўныя ноты.

Бялявы, чарнявы – любы
За штосьці заўжды паміралі.
І нават Радзіму любіць
Вучылі варожыя зграі.

Цаню веснавую пару
І восень, што зноў залатая.
Выходзіць, дурным і памру,
Чагосьці заўжды  не хапае.

Прайдуся на яве і ў сне,
Дажджамі, грамамі касымі.
Хоць ты
Пазнавай ува мне
Раба
І Гасподняга сына.

# Мае гады

Мае гады – маё багацце,
Цяжэе несці вас усё.
Ды ад сябе мяне не збаўце,
Без вас –
Ніхто я праз жыццё.

Вы – лёгкакрылыя сцяжыны
І сэрцу верныя радкі.
Каханне, што заваражыла,
І гром у кроне трапяткі.

Гады – бясконцыя надзеі
Ў нябёсах зорных,
На зямлі.
Не прападаў па ночы дзе я,
Да сонца добрага вялі.

Як упаду – не пакідайце,
Свяціце, гасніце ўваччу.
Гады мае – маё багацце,
Вас па галовах палічу.

***

Як некалі ледавікі,
Цяпер вось раптам і над намі
Заплакалі мае радкі
Тваёю тушшу пад дажджамі.

Вяла імклівая шаша
Назад нібы,
Нібы наперад.
Нікога больш не суцяшаў:
Ішла зямля на свежы нераст.

# Кветкі Радзімы

Казачнай, міфічнай каравелаю
Там, дзе ранак знакі падае,
Гладыёлусы чырвона-белыя
Да мяне плывуць з нябёс твае.

Колеры такія добра помняцца
З тых часоў,
Калі мой конь гатоў
Быў вятры таптаць, глытаць папоўніцы
З-пад варожых дзікіх капытоў.

Выкапалі, выплакалі смолы ўсе
Сосны па-над ціхаю Тур'ёй.
Узыходзяць дзесьці гладыёлусы
На тваёй радзіме і маёй.

Звонкім паднябесным голасам
Вочы ў вочы клічуць
І здаля.
Пад акном святкуюць гладыёлусы
Твой прыход,
Каб помніла Зямля.

Будуць і ярчэйшыя.
Нясмелы я
Прабяруся, каб нарваць, сюды.
А яны, яны чырвона-белыя
Не перацвітуць
І праз гады.

# Княства маё

Мой Нёман – і песня, і слава
Ў блакітнай маёй старане,
І вечнасць прытульная нават.
І мроіцца, хочацца мне
Прыйсці да цябе, нахіліцца,
А ты, як найлепей, парай
Зачэрпаць вадзіць-жывіцы
Ці любай сабраць небакрай.

Мой Нёман, я еду, я еду
Пазведаць цябе да краёў.
А следам, а следам, а следам –
Вялікае княства
Маё.

***

Так павялося вякамі:
Слабы ці дужы, як спеў,
Я паміж небам і вамі
Той, хто любіў
І цярпеў.

І нікуды не падзецца –
Верасень ці крыгалом –
З Богам вялікім
У сэрцы,
З вамі
За родным сталом.

# Размова

Мне тэлескоп адзін засведчыў:
Стаіць заўсёды пры акне
На той планеце рыжы вечар,
Таму ты Марсік у мяне.

Таму паспі,
Хвастом пацешна
Перада мной замкнуўшы круг.
А я пайду схаджу па вершы
За сіні лес,
На цёплы луг.

Прыйду – паслухаеш памалу,
А потым ціхенька паплач.
У нас ні публікі, ні залы,
Аратар я, а ты слухач.

І дамаўляліся аб нечым
Паўсюль, заўсёды ва ўнісон
Мой паэтычны лепшы вечар,
Твой неспакойны рыжы сон.

Тваё балячкі час заліжа,
А мне па сэрцы паплавы.
Ты залацісты,
А не рыжы,
І срэбны я,
А не сівы.

# Скрыпка

Іграе флейта, саксафон,
Раяль іграе для эліты.
І тамбурын.
Іграе ён.
А скрыпка плача менавіта.

Але не плакаць нам з табой,
Маэстра мой, на бездарожжы.
Альбо кахаць цяпер, альбо
Загінуць верна і прыгожа.

Жыві, душою не крыві,
Няхай хто так за нас паплача.
Было і слёзаў, і крыві.
Але ж было,
Было іначай.

Спадае гук з аблокаў-жмень,
З-пад пальцаў тонкіх,
Пальцаў гібкіх…
На цені граў
Лясны прамень.
А плача менавіта скрыпка…

# Танец

*Таццяне Дзякевіч*

Колькі стагоддзяў яшчэ ні міне,
А пры наступным спатканні
Спантанна
Вы танцаваць навучыце мяне,
Як гаварыць,
Прызнавацца ў каханні.

Нельга расстацца, не зведаўшы вальс,
Нельга вярнуцца,
Вас не сустрэўшы.
Багаслаўляць буду танец
І Вас
Кожнай хвілінай
Блакітнага верша.

Мне не хапаць будзе моцна ў жыцці
Танца,
Нібы недасяжнай сініцы,
Як немагчыма да зораў пайсці,
Не навучыўшыся лёгка кружыцца,

# Рака

Аблокі, сонца, ранні вырай,
Мяне з табой, шчаслівага,
І небакрай, як можна шырай,
Свой бераг з дзікай сліваю,
Зарніцы велічныя мая
І хваляванне Вербніцы –
Усё рака запамінае.
А раптам
Ды спатрэбіцца.

Усё, што з ёй
І па-за рэчкай
Ды з гнёздамі стрыжынымі,
Запамінае,
Каб навечна,
Прад сумнаю
Чужынаю.

***

Юрацішкі, Валожын, Трабы…
Прыстойны свет і малады.
Не чуюць людзі –
Паляць травы,
Аж выядае вочы дым.

А птушкі крылламі сваімі
Шляхі пракладваюць вясне.
Маўчыць пярун,
Пакуль ад дыму
Сам задыхацца не пачне.

# Глыбінка

Тут век даўно не залаты
І па-трывожнаму асенні.
Ізноў іржавыя драты
Падораць мне паведамленні.

А думкі, нібыта сівец,
Спрабуюць несці плён адчайна.
Яны пра родны Астравец,
Святое Віліі маўчанне.

Яны, нібыта сенажаць,
Цвіце і чэзне скрозь якая.
Памкнешся іх занатаваць –
Дарогу трэсці пачынае.

Людзей у гэтай старане
Наплакаў кот смяшлівы быццам.
А стол накрыюць для мяне,
Які і ў раі
Будзе сніцца.

# Вароны

Чорныя плямы
На небе стамлёным,
На небасхіле марознай зімой:
Помняцца так
Ад маленства вароны
Над гарадамі, над хатай маёй.

Белая-белая ўсходам чырвоным
Стане зіма ні часцей, ні радзей.
Ноч дадзяўбуць на світанні вароны,
Чорнымі крыллямі
Выбеляць дзень.

# Словы на марозе

Ноч з’язджае са страхі
Глыбай снегу,
І паверыцца:
Вылупляюцца імхі
Са снягоў далёкай Вербніцы.

Верба строгаю была.
І дагэтуль светла помніцца:
Сем начэй –
І са стала
Чэрпай лыжкаю папоўніцы.

Адступалася бяда
Перад вербаю матулінай.
Словаў мне тваіх шкада
На марозе моцна стуленых.

# Споведзь

Выкрасліць, вынішчыць з памяці як
Тое, з чым жыў і маркоціўся ў згодзе.
Хіба на Месяц справадзіць бальшак,
Што да цябе і сягоння прыводзіць.

Возера хмарай па небе пусціць,
Лебедзя, што пакарміць ты любіла.
І не прызнацца ні разу ў жыцці,
Чым даражыў
І што цепліцца міла.

Як выракацца вясёлкавых сноў,
Што сустракаліся скрозь пры нагодзе.
Нашы арэлі вяртаюцца зноў,
Колькі апоўначы іх ні праводзіў.

Лёгка пазбаўлюся велічных слоў,
Каву забуду
І мяккае крэсла.
Тэму змяню.
А каханне, любоў
Паміж радкоў
І між зор
Уваскрэснуць.

# Бяссонніца-ноч

Пакуль не спусціўся за лесам,
Глядзела
І жмурыла погляд прад яснасцю зор.
Хацелася поўні
За лебедзем белым
Ляцець да Браслаўскіх далёкіх азёр.

Стуль хлопец са мною вучыўся калісьці,
Не помню, на жаль, ні вачэй, ні імя.
Над крыжам ягоным – зялёнае лісце
І доўгая ў вечнасць асела зіма.

Якая тут сувязь узнікла раптоўна,
Пакуль паўз вякоў пралятала Зямля.
Паснулі, здаецца, і лебедзь і поўня,
Бяссонніца-ноч
Надыходзіць мая.

# Юбілеі

А дні ішлі.
Нібы з чарэшні,
Снег сыпаў і кружыў ля скроні.
Яго ў мяне цяпер, нарэшце,
І ў полі студзеньскім –
Пароўну.

Памылка прыкрая, здаецца,
Кружыла снегам-непакорай.
Вось-вось растане
І на сэрцы
Ізноўку воля і прастора.

Тады, у цёплы дзень асенні,
Калі з табою пасталелі,
Якое непаразуменне
Сышло з асеннім юбілеем.

***

Прыгажосці маўклівай паверыў,
Што яна – для мяне аднаго.
Колькі суму на белай паперы,
Ажно курчыцца ліст ад яго.

Прыгажосці вясёлай паверыў,
Што яна –
Быццам мне аднаму.
Так аднолькава бразгаюць дзверы,
Што вядуць у вясну і ў зіму.

# У начным акне

Ужо паснулі клён, трава,
Сасніць крыніца дзень гатова.
І павучок занатаваў
Сустрэчу нашу слова ў слова.

У рамцы потым сам заснуў.
На павучынках спалі блікі.
Яго малюнак пра вясну
І пра пясчаны бераг дзікі.

Яшчэ вячэрнія сляды
Па памяці,
Па набярэжнай,
Дзе шэрай пліткаю гады
Навек пасцелены ля вежы.

Хвіліны добрыя з сабой
Панеслі вы.
Услед я марыў.
Забралі летні свой прыбой,
Жыцця заблытаны сцэнарый.

Перазімуй, перавякуй,
Ён у адно па-свойму звяжа.
Патрэбны ў тэму павучку
Назаўтра колькі словаў нашых.

# Эцюд

Сваёю лістотай асенняй
Мой клён
Нібы шчучынскі пан:
У золаце травы і цені,
Увесь пазалочаны сам.

Падстаўлю далоні,
І мне ты
Страсі ці па-панску сарві
Да рук залатую манету,
Каб кінуць да сэрца Тур'і.

Таемная снамі сваімі,
Яна між стагоддзяў глухіх
Плыве, недасяжная, міма
Вачэй
І спадзеваў маіх.

***

Сама надумаеш цяпер ты
Пабачыць,
Горад як засне, –
Ляцяць крышталікі ў паветры,
Няма ім справы да мяне.

Буслоў прыпомню перастукі
Па-за сцяною нездарма.
…З туману лютаўскага ступіш,
Так проста скончыцца зіма.

# Музыка

Зайгралі Вы
І Вас не стала.
Мяне пры Вас няма даўно.
Палацавыя сцены
Залы
Плылі аблокамі ў акно.

Ледзь дня заходнія вароты
Прыцішаць музыку і спеў,
Паперы чысты ліст самотны
З хвілінай кожнаю хмурнеў.

А сонца стоміцца ў зеніце –
Зямлю і неба не дзялю.
Смычок вазьміце
І вярніце
Мяне з сабою
На зямлю.

# Банальнае

Ты жураўля чакай вясною,
Зімою доўгай не прыходзь.
І сустракацца мне з табою
Хаця б у сне,
Хоць мімаходзь.

А выйду ў снег –
І абступілі
Сініцы шчыльна дзве рукі.
Жаданы я і лёгкакрылы,
Яны ж святыя ў час такі.

Вярнуся з далечы дадому.
Што б на сустрэчу ні прынёс,
Далей, на жаль, усё вядома,
Банальна,
Велічна
Да слёз.

# Пах зоркі

***

Лебедзі спрабуюць цалавацца,
Значыць, квецень белы настае.
Людзі не спяшаюцца ў палацы,
У пакоі цёплыя свае.

Да дарог наблізіліся гоні,
У пару пасеем і пажнём.
І Радзімай светлаю
Сягоння
Пахне зорка
Проста над акном.

***

Запаланіў цябе самую
Суровы космас нематы.
Сумую па табе, сумую –
Не стала б знічкай толькі ты.

Не натамілася б свяціцца
На адзіноце вечнай там.
Што мне сказаць было б крыніцам,
Яшчэ – дапытлівым вачам?

І памінуць цяжкія хмары,
І праясніцца дабяла.
Цябе сустрэць я столькі марыў,
Ты дзеля гэтага жыла.

***

Там зорка гуляла са мною,
Заглядваючы праз акно,
Ці гэтай блакітнай вясною,
Ці вельмі і вельмі даўно.

Заплюшчыўшы стомлена вочы,
У цемень сышоў успамін.

А зорка прапала аднойчы,
Быў я вінаваты адзін.

Блукаў па далёкіх сузор'ях,
Хадзіў ад сяла да сяла.
Пазведаўшы россыпы зор,
Я
Такой не знайшоў,
Як была.

***

Адусюль цябе відаць,
Зорка маладая,
Як квітнее сенажаць
Ці мяцеліць далі.

Як аблокі і гады
Засланяюць зорку,
Адзінока мне тады
І чамусьці горка.

Пэўна, сумна без мяне
І табе знадворку.
Пасцяліся пры акне
І кладзіся,
Зорка.

Песня словам дарагім,
Калыханкай стане
Пра шматгорбыя снягі,
Новае расстанне.

Распагоджуся ўдвая
Свежаю вясною.
Зорка блудная мая,
Грэх адзін з табою.

І ад гэтае начы –
Не дзівіся толькі –
Станеш звацца,
Бо маўчыш,
Прынямоньскай зоркай.

***

Калі прыносіць крыгалом
Трывогу, нібыта паразу,
Убачу зорку над акном
І супакоюся адразу.

Яна спакойная заўжды,
Самой хоць, можа, і балюча.
Глядзіць сюды,
Ляціць сюды
Цераз Сусвет такі калючы.

І можна жыць,
Як набяжыць.
А зорка ночаю адною
На небасхіле задрыжыць,
Відаць, падумаўшы благое.

Ніколі верную яе
Не падару, не прамяняю.
Наступіць дзень
І не стае
Яе, як пушкінскае няні.

Тут зорка проста на плячы
Пераначуе сёння, можа.
Яна прыгожа памаўчыць,
А я паслухаю прыгожа.

***

У шэрань сузор'і адзеты.
Стаў час і не твой, і не мой.
Кароткае бабіна лета
Прад доўгай халоднай зімой.

Мяцеліца выпадзе дзёрзкай,
Забытаю мачахай
Дням.
А мне будзе цёпла пад зоркай,
А поруч – утульна і вам.

Калі ж завірухаю пешшу
Вам выпадзе шлях за дваіх,
Прыпомніце добрыя вершы
І ціхага аўтара іх.

Пачую, як колісь, таксама
Знаёмую зорку ў акне.
Яна за сябе
І за маму
Да ранку ізноў не засне.

***

Ноч на світанні сляпая
З хваляў іскрынкі клюе.
Зорцы святла не хапае,
Каб дакрануцца мяне.

Казка, аднак, распачата
Зоркай, што ў тую пару
Па небасхіле зубчатым
Коціцца проста да рук.

Я падстаўляю далоні
Ў час нечаканы, любы:
Памятай, зоранька, помні
Тых, хто кахаў
І любіў.

***

Жыццё павернецца і пойдзе,
Нічога каб са мной не мець.
Забыў, як пахне ў небе поўдзень,
Пачатак лета
І канец.
Як затуляў вясну самую
Ад нечаканых маразоў.
Як зорка ў верасень сумуе,
Яе імя,
Яе назоў.

Жыццё, цябе не браў памногу –
Адна вясна,
Адна зіма.
Давай прысядзем на дарогу,
Каб нас чакалі нездарма.

Вячэрняй казкі
Прысмак горкі,
Бо напалову ўсё было.
Адным патрэбны ў небе зоркі,
Камусьці –
Толькі іх цяпло.

***

Чым вас на небе болей, болей,
Тым ты святлейшая ўдвая.
Не пакідай мяне ніколі,
О, зорка добрая мая.

Свой па табе пазнаем род мы
І лёс – усе да аднаго.
І неба стане блізкім, родным,
Сіроцтва збавімся свайго.

Ты не знікай, і я вярнуся
Пагаварыць з табой аб чым,
Бо па табе сумуюць гусі,
За Нёман хмуры летучы.

З табой утульна і спакойна.
Зноў месяц чоўнам падграбе.
Пра боль забудзешся і войны,
Пра час і нават – пра сябе.

Імя, нарэшце, запытаю,
Калі ты блізка,
На вадзе.
Ты будзеш проста залатая,
А я – твой цень
На цэлы дзень.

# Азіміна

Ужо азіміна смакуе
Зеленаваты неспакой.
Цябе сустрэну
Ці прысню я:
Ідзеш усмешлівай такой.

І за сабой цябе паклікаў
Пад векапомны снег тугі,
Дзе навакол Радзімы блікі,
І ні трывогі,
Ні тугі.

Пад маразы апасля лета
Ляцела зернейка ў раллю.
Шаптаў і я малітву гэту:
Святкую,
Верую,
Люблю.

Яно не толькі выжывала,
Да рук вярталася назад.
І мы прыходзілі памалу
З табой
Пад родны далягляд.

Пакуль ручай да сонца бегаў
І маладзік трымаўся дзіў,
Пагляд азіміны з-пад снегу
Зямлю і неба
Адрадзіў.

# Маладосць

Я засядзеўся ў крэсле, можа,
Не гаспадар ужо, не госць.
А пад касынкаю прыгожа
Бяжыць па лузе маладосць.

Бяжыць здалёку, верагодна,
Хоць да яе вазьмі прыстань.
Паэты кажуць, што падобна
Бяжыць-фліртуе лесам лань.

Бяжы, бяжы, не супыняйся,
Не заўважай мяне зусім.
Ты ў вуглавым далёкім класе
Пасярод вёснаў,
Снежных зім.

Растане снег і свежы ляжа,
За нас гады падлічыць хтосьць.
Мая равесніца,
Аднак жа,
Ты – маладосць
І маладосць.

# Вобраз

У памяці маёй суровай
Імгла, туман і цішыня.
То з маці зноў пілуем дровы,
То пастушком чакаю дня.

І толькі днюе над Тур'ёю
Світальны вобраз,
Дзе яна.
Журбы, расстання і спакою
Мне з ім ужо
Няма здаўна.

Хачу забыць,
А ён за мною
Праз церні, хмары і гады
Цячэ нясмелаю Тур'ёю
Туды, дзе я,
Дзе я – туды.

І журавель ці хоць сініца
Навошта мне,
Бо што з таго,
Калі на вобраз той маліцца,
Калі мне светла ад яго.

Пры ім мой лёс
Мяне нанова
Над краем буслам прыпадняў.
…Мы з маці зноў пілуем дровы,
То пастушком чакаю дня.

***

Прыходзіў раніцай сюды
І, заміраючы, глядзеў:
Чародка качак маладых
Спрабуе танец на вадзе.

Паверыў калісь я дарма,
Што толькі ў вёснах
Шал і страсць.
Калі канчаецца зіма,
Што толькі лебедзь мог кахаць.

І вось, распырскаўшы спакой
Па думках і па берагах
І свой прынёманскі,
І мой,
Ляціць шчаслівa ў неба птах.

Пазбавіць слоў,
Запыніць дых.
Не чуў, не бачыў анідзе:
Чародка качак маладых
Вясну
Танцуе
На вадзе.

# Прыпавесць пра радзіму

Не шлях, таемны і вялікі,
Не сцежка, ніткі тонкай менш,
Званочкам тоненькім паклікаў
Аднойчы ранішні мой верш.
Павёў па цемені, па ночы,
Па садзе ўжо не маладым,
Які пакінуў я аднойчы
Тады на доўгія гады.
Там сонца не было.
Там цені.
Гнучы галіны дзе-нідзе,
Там яблык стомлены асенні
За камень, пэўна, быў цвярдзей.
Галінкі пальцамі спляліся,
Калі вятры на здзек ішлі.
І ткалі кроны сон у высях,
Імхамі мроілі камлі.
Рвануўся з саду
І ад белі
Аслеп і анямеў спярша.
Назаўтра зубы мне балелі
І пакідала плоць душа.
Дзяцінства здоўжылася ў кронах,
Тручы павекі кулачком.
А на сцяне спакойна, роўна
Гадзіннік жыў,
Мой добры гном.

**2**

Няхай, няхай пабудзе жменька
Мяне
Да лепшае пары.
Хачу прыйсці сюды маленькім,
Каб пазіраць на Стаўбуры.
Мая радзіма,

Мой прыстанак
Шпакоўняй туляцца яны.
І там ні дарага, ні танна
Не прадаюцца болей сны.
Стаялі хаты.
Свят нямала,
На сонцы бліскалі ключы.
І пальцаў рук якраз хапала,
Каб хаты тыя палічыць.
Дзяды маўчалі векавыя,
Як старажытныя дубы.
Туман бульбоўнікі павыеў,
Я ж кашу з подліўкай любіў.
Мой дзень у засуху ўрачыста
Спрабуе зноў, як божы дар,
Нібыта маці, смеючыся,
Мне сонца выпырснуць з-за хмар.
А бацька ўжо да тога часу
Расштурхаў высь,
Суцішыў гром
І калыханкі дачакаўся
Маёй любімай за сталом.

**3**

Яшчэ мне памяць падказала,
Што ў стаўбуроўскай старане
Імя прыгожае – Разаля
Насіла бабка
І – мяне.
А колькі год было бабулі,
Ніхто не ведае.
Ну, што ж…
Гады па прыцемках мінулі.
Казалі, сто.
А можа, больш.
Затым паменшала народу,
Стары сышоў і малады.
І агарод за агародам

Заштрыхаваў травой сляды.
Хапала ў сонечнай радзімы
Пяшчоты, ласкі і цяпла.
А да астатняга
Хвіліна
Хадзьбы гравейкаю была.

**4**

І стала першае каханне
Высокай зоркай і тугой.
Са мною ўспыхнула і кане,
Неразгаданае,
Са мной.
Прыходзяць зоркі аж пад хату,
Але не я, але не я.
Чым далей – болей вінаваты,
Што тут мой космас
Без імя.
Цікуюць коміны дзень цэлы
На веліч атамных клыкоў,
Што над Віллёю паўзляцелі.
І больш ні позіркаў, ні слоў.
Тут сонца менее, чым далей,
І толькі неба дзе-нідзе.
А дрэвы месца пазаймалі
Сваё
І ценяў,
І людзей.
Акон няма,
Не скрыпнуць дзверы,
Мінае буслава крыло.
І я ўгаворваю паверыць
Сябе,
Што так
Усё
Было.

# Прыпавесць пра лёс

Цяпер тут вываратні, пні,
Ствалы і кроны-веліканы.
Нібыта дні, ляжаць яны
Наўскос,
Уздоўж,
Пакрыжавана.
Пад імі завязі грыбніц
І пакалечаныя цені,
Што для людзей хацелі жыць
І цешыць верасень хацелі.
Галіны сцяліся на дне,
Ім не было падняцца сілы.
Аж шэптам вольха тут мяне,
Бы напаследак,
Запыніла.

– Тут жыў асочнік малады,
Русявы сам, з блакітам вочы.
І заблудзілася сюды
Дзяўчына з кошычкам аднойчы.
Яе выводзіў з пушчы ён.
Вяла віхлястая дарога
Ў малазнаёмы дзіўны сон,
Дзе ўжо юнак зблудзіў надоўга.
Лясное возера для іх
Гняздом утульным цёплым стала.
І цэлым светам для дваіх,
Пакуль радня не адшукала.
З паперкай рэкруцкай яму,
З пячаткай царскаю настрога.
Цяжэй, чым нават на вайну,
Збіралі воіна ў дарогу.
І хто б паверыў назусім,

Што па жыцці такое стане,
Што ў дваццаць пяць халодных зім
І летаў
Збудзецца расстанне.

Але ж было:
Ішла вайна
І цішыня,
Нібыта ўчора…
Зноў прада мной ён і яна
Сустрэлі цёплы надвячорак.
Салдат кульгавы і сівы,
У мазалях яна, маршчынах.
Падняць баяцца галавы,
Каб глянуць сумнымі вачыма.
Хачу, каб знаў пра іхні боль
І пра мяне,
Мой лёс пахілы.
Тут пада мной
І пад табой
Здаўна марнеюць іх магілы.

Цяпер усё.
Не страшна мне
І паміраць,
І забывацца…
Я ж сам пры каменнай сцяне
Акамянею ля палаца.
Вось толькі слова дапішу,
Пакуль пяро трымаюць пальцы,
Як трэба, маючы душу,
Любіць,
Кахаць,
І спавядацца.

## Эпілог

Садзілі ельнік, дзе прапаў
Высокі лес вясной.
І толькі
Мужчына сталы прысыпаў
Карэнне тоненькае вольхі.
Ён прыгаворваў сам сабе
І дрэўцу як бы пры нагодзе:
– Няхай гняздо зязюля ўе
І ў кроне дзетак тут выводзіць.
Ты ж ціха лісцікам шапнеш,
Калі надарыцца прычына,
Усёй ваколіцы
І мне
Пра лёс,
Асочніка,
Жанчыну.

# Зіма

Чорным па белым,
Бы ў сумнае келлі,
Пёрка макаючы ў цемру,
Пішу.
Думкі навобмацак ціха ляцелі,
Будзячы край за галлё
І душу.

Што адратуе,
Што стане па сіле?
Але на яве ці, можа, у сне
Вобраз антычны
Сышоў з небасхілу.
Моўчкі глядзела зіма на мяне..

# Вечнае слова

Прагне пабачыць за хмарамі
Вока
І пад сабою пачуць карані.
Ціхае слова,
Развагай высокай
Голаў разгневаны мой захіні.

Выесць і сэрца, і сінія вочы
Свой і чужы над Радзімаю боль.
Гордае слова,
Укленчыць аднойчы
Перад нябёсамі толькі
Дазволь.

Мы ад зямлі і ад сонца абое
Знічкаю станем з сівой галавой.
Роднае слова,
Мне дыхаць табою
І называцца па свеце
Табой.

Вольнае слова,
Вучы не скарыцца,
Нібыта Зніч па-над роднай зямлёй,
Наскаю доляй,
Вытокам крыніцы,
Песняй штодзённаю маці маёй.

Слоўка да слоўка – народнае веча
Цераз туманы, праз ноч і зіму.
Вечнае слова.
І ёсць яго весці
Па бездарожжы
Куды
І каму.

# Кропля

Неспасціжны свет для талакі.
Зоркамі пабудзем мы абое.
Кроплю падзялю на два глыткі,
Кожны адратуе нас з табою.

Вось і дачакаўся я слязы
Спачувальнай,
Велічнай і гожай.
Кроплю падзялю
На два разы,
Кожная ўваскрэснуць дапаможа.

А на шкле дрыжыць аж давідна,
Быццам што сказаць адчайна хоча,
Кропля непадзельная,
Адна,
Перуном пазначаная ноччу.

Скоцімся адзін да аднаго
Кропелькамі ціхімі ў адзіна.
Будзе меней нас,
Але з таго
Стане мора зорнае
Радзіме.

# Ведаем-помнім

*Сяргею Гардзейчыку*

Пазбавімся мы нематы,
Прысеўшы пад юную поўню.
Як добра, што ведаеш ты,
Цудоўна, што я тое помню.

Галовы кружыў стадыён
І смелая чарка, бывала.
Пад ногі сцяліў травы ён,
Яна засынаць не давала.

Нібыта без нас паплылі
Гады па радзіме, па часе.
То ты прывыкаў да Віллі,
То Нёманам я захапляўся.

Патрэбныя для аднаго,
Як лёс называў нас і клікаў.
Я белы ў Радзімы ўсяго,
Ты горды ў Радзімы вялікай.

Заседзімся мы дапазна.
Калі ж патрывожыць гадзіна,
У нас бліскавіца адна
І гром у далонях адзіны.

# Прызнанне

Сказаць па шчырасці дазволь
Табе, здаецца, першаму:
Не ўмею змешваць алкаголь
З пачуццямі
І вершамі.

Інакш наступны добры верш
Сустрэнецца не скора мне.
І прад паэзіяй найперш,
Як прад жанчынай,
Сорамна.

Інакш гады чакаць цяпер
Да свежай роснай раніцы.
Лепш слову першаму павер,
Чым на другім параніцца.

Каб гукі пачыналі дні
За сонца
Намі ўзятыя,
На ветры пахнулі яны
Дажджынкамі
І мятаю.

# Ластаўчын май

Мушу ў бяссіллі прызнацца,
Бо не зманю напавер:
Ластаўчын май для палаца
Зноў дабудоўвае верх.

Будматэр'ялы нанізе,
Страсць прыгажосці ўгары.
Лепку вядуць пад карнізам –
Класіка лепшай пары.

Можа, антычнае лепяць.
Ранак крыло распасцёр.
Вось па-над хорамам лебедзь
Цэніць найноўшы дэкор.

Так талакуюць дзень цэлы,
Працы канца не відно.
Княжымі быць захацелі,
Божымі стаўшы даўно.

# Ах, жураўы...

А журавы заўжды ляцяць у памяць,
Па восені ляцяць і па вясне.
Маленькіх гарадоў не абмінаюць,
А заадно прыхопяць і мяне.

Пачую ледзь іх голас і трывогу,
Услед бягу праз дождж і праз гады.
Нібыта не паўторыцца нічога,
І сёння расстаёмся назаўжды.

Ах, журавы, мне ўнізе падалося,
Што праўду я і ісціну пазнаў:
Без вас была б і восень,
Як не восень,
А потым і вясна,
Як не вясна.

# Здагадка

Колькі ўгары ажывае
Руху,
Імкнення і пластыкі.
Птушкі дружней не бывае
Добрае, шчырае ластаўкі.

Пэўна, у птушак праз лета,
Колькі стагоддзяў ні доўжыцца,
Людзі вучыліся светла
І працаваць,
І трывожыцца.

# Музыкант

Маленькі гарадок.
Закружыць ліст
Пад думкі і пад музыку Вівальдзі.
Зайграе для людзей саксафаніст,
Надоўга, бы пакрыўджаны, прысядзе
На крэселка, нібыта на траве.
Іграе, быццам тут яго радзіма.
І тут, на гэтай вуліцы, жыве,
І прысвячае ёй душу адзінай.

Маэстра з пасівелай галавой
Распавядае людзям часу колькі
Пра першае каханне
І пра свой
Далёкі боль
І маладую зорку.

Няхай гудзе праз вуліцу штораз
Кірмаш, пакрыты модным цёплым шалем.
Я на павольны танец толькі вас
У думках і паглядам запрашаю.

Паедзе музыкант.
Няўцешны ён.
А тут па волі настальгічнай клейкай
Гучаць ужо не кіне саксафон,
Прыпомніўшы далёкую жалейку.

Ніхто не ведае, капейку кладучы,
Аднак, пра што так саксафон сумуе.
І кожнаму здаецца, што гучыць
Мелодыя пра прыгажосць самую,
Якая зноўку выратуе свет
Каторы раз надзейна і нязменна…
Тут толькі ветру асцярожны шэпт,
Вачэй і славаў
Светлая ўзаемнасць.

# Расстанне

Прыгожая, бясспрэчна,
Пара пад сонцам зараз.
А побач недарэчнасць –
Лісты на тратуарах.

Дзе ім цяпер падзецца
З картаваю абновай?
І выбірае сэрца,
Каб не ступіць
На слова.

# Самота

*Гвідону Ждановічу*

І не далягляд,
А карыта –
Глядзець хто захоча.
Завешаны вокны.
Закрыты
Паэтавы вочы.

Цяпер для чаго прыгажосці
Развага і одум,
Калі, ні спытаеш кагосьці,
Самой яе
Шкода.

# Усё на месцы

Калі становіцца на месца
Вакол усё:
З далёкіх дзён
Рака за мной
У неба льецца,
І месяц прытчаю відзён.

А паспрабуй хоць што парушыць
У гэты міг і час якраз –
Табе не выгадую ружы
І не скажу жаданых фраз.

На месцы сонца спазаранку,
Вачэй і росаў драмата.
І нават беленькая плямка
Гарыць у чорнага ката.

Усё на месцы:
Ад спякоты
Да мерзлаты, што ў свеце тым.
На месцы клавішы і ноты,
І прэзідэнты, і шуты.

Сам дакрануцца ўжо баюся
І да цябе, і да сябе,
Не шкодзіць каб па Беларусі
Грыбніцам, казкам і сяўбе.

Пастануць велічныя ёлкі
Зіяць, як некалі былі.
Усё на месцы, хіба толькі
Ты на другім канцы зямлі.

Струна дрыжыць, але не рвецца,
І грамыхае трубаў медзь.
А думкі, думкі не на месцы.
За імі як бы мне паспець…

# Перамір’е

Усе сумеліся, калі
Распачыналася пад вечар
Размова неба і зямлі,
Нібы запозненае веча.

Ішла сусветная вайна,
Свет слухаў музыку былую.
Там на павышаных танах
Умовы
Неба прапануе.

Успыхне неба.
Ад яго
Пайшлі гарэць сухія травы.
У Божай тройкі пад нагой –
Налева іскры і направа.

Успыхне неба
І штораз,
Як у дзяцінстве, сціснe грудзі:
Прыпамінаць трывожна будзеш,
За што Бог сварыцца на нас?

Ты прыйдзеш лёгкаю хадой,
І паміну ганебны вір я.
Пасядуць ластаўкі ў гняздо,
Тым абвясціўшы перамір’е.

# Сонца

Прахалоднай ціхай раніцай
Над зямлёй,
Як хопіць сіл,
Сонца промнем апіраецца,
Каб ляцець,
На небасхіл.

А падымецца над пожнямі –
Стане сонца маладзей.
Бы крыло,
Праменне кожнае
Пад сябе тады складзе.

Паляціць па-над далінаю
І, напіўшыся расы,
Крылле выпусціць былiннае,
Мякка сядзе за лясы.

# Трохрадка

А смутак заведама ранні
Прыходзіць здаля.
Расстроіцца ад хвалявання
Гітара твая.

Фальшывыя выдасць акорды,
Што гук – то пусты.
І я перастану быць гордым,
Суцішышся ты.

І сэрца, і пальцы прывабяць,
Стамлёныя ўшчэнт.
Падказвае мне мая памяць –
Не наш інструмент.

А скажа сучасна і гладка,
Падумаўшы зноў,
Равесніца наша трохрадка
Завоблачных слоў.

Чаканне ў адценнях наўкола –
Сумую, люблю.
Заведама ёй зноўку голаў
На плечык хілю.

# Памяць

Я думаў, што ўсё аднаму –
Сцяжыны, мелодыі, далі.
Бяздонная памяць.
Таму
Што-небудзь з яе выпадае.

Пры памяці, як пры вадзе,
Каліна, быльнёг і асокі.
І начай учарашні дзень
Сядае на бераг высокі.

Падумае ён сам з сабой,
Заб'ецца трывожнае сэрца.
І ў памяці вір
З галавой
Мой дзень учарашні
Кульнецца.

А іншай дарогі няма.
Чароды ляцець не прыстануць.
А потым і памяць сама
Сыходзіць у іншую памяць.

# Шляхцянка

Князі гадалі тут упарта,
Як ты цякла праз паплавы,
Каму пакінуць голаў варта,
Каго пазбавіць галавы.

Затым прыносілі каралі
Тут для паненак маладых.
І за Айчыну паміралі
На берагах жывых тваіх.

Бліжэй цякла да чалавека,
Каб потым зноўку – на прастор.
Зімой заплюшчвала павека
І не жадала болей зор.

Усё спяшала міма, міма
Ад несупыннасці сваёй
Ажно да Вежы Гедыміна
Плыць поруч з хуткаю Віллёй.

Імя ласкавае Ашмянка.
Табою летні вечар пах.
Блакітнавокая шляхцянка
На аксамітных дыванах.

## Сум

Не вечна неслася Пагоня.
Быў першы і апошні бой.
Лічыць стагоддзямі сягоння
Мы сталі, мудрыя, з табой.

Заззяе маладое вецце,
З губы абсохне малако.
А прыйдзе час і не прыкмецяць
З табою нас сярод вякоў.

Ляцяць без правілаў у госці
Жаўронкі, ластаўкі ўгары.
Мы самі згубімся ці хтосьці
Забудзе крокаў нашых рытм.

Сатрэцца памяць, нібы крэйда
Калісьці з дошкі чорнай там.
І хто апошні добра ведаў
Нас,
Адляціць да зораў сам.

А зоры проста не спытаюць,
Калі і як, і што было.
Ім не патрэбна наша памяць,
Ім душаў мроіцца святло.

І каб не раніца, не росы,
Самаахвярнасць свежых струн,
Куды падзець такую роспач,
Развеяць чым падобны сум?

***

Дзеда Мароза пачцівая ўнучка
Нам на акне малявала мароз.
Мне аднаму гаварыла нягучна,
Каб срэбназвонкія фарбы паднёс.

Кветкі затым абяцала на лета
Ў вокнах садзіць,
Пасміхнуўшыся зноў.
Памятаў я на змярканні пра гэта,
Каб палівацъ да асенніх дажджоў.

Лета прыйшло.
На пероне вакзала
Так нечакана сустрэліся мы.
– Я жартавала, – унучка сказала. –
І да сустрэчы,
Да хуткай зімы…

Сяду з білетам у мяккае крэсла,
Поўнач далёкая – хіба ж бар’ер.
Дзеду Марозу я верыў з маленства,
Светлай унучцы –
Яшчэ і цяпер.

# Маё свята

Нішто мяне не зачапіла
Пакуль ні зблізку, ні здалёк.
Хіба прамень кранаўся міла
І вецер чубіў з-за аблок.

У сне спякла матуля бохан,
Што зарумяніў з родных ніў.
І да вачэй, да светлых вокан
Цяплюткі верасень ступіў.

Сябрам далёкім парадзелым
Ніводным словам не зманю.
І зорка верная глядзела
Без асцярогі ўпершыню.

І вось пушынкаю ці глыбай
З-за павароткі наплыло:
На мне сышліся, стрэлкі нібы,
І год, і месяц, і чысла.

Ты выглядаеш слаўна гэтак,
Аж я па-іншаму відзён.
У вазе – кветкі,
А ля кветак –
Любімы мой адэкалон.

# Агні

І стала так:
Агні, агні
Дарог уздоўж,
Уздоўж нябёс.
Свяцілі стомлена яны,
Я службу побач з імі нёс.

Яны не спалі,
Я не спаў.
Наколькі мог,
З нас кожны ззяў.
Які цудоўны выйшаў сплаў
Ідэй,
Душы,
Прыродных з'яў!

Гарадь, ні гляну я калі,
У кроне неба, пры камлі,
Бы абавязаны былі
І мне, і высям, і зямлі.

Агні, трывожныя агні,
Бы я, задумлівыя ўсе.
Гадаем з вамі мы адны,
Што скажам сонцу
І расе.

# Кажан

А захад зноў насупіў бровы.
Каму, чаму цяпер не рады?
У промнях ціхіх вечаровых
Ляцеў кажан пад балюстрады.

Яго пара, яго хвіліна
Ля стогадовага палаца.
Ты галаву схіліць павінна
Мне на плячо,
Каб не спужацца.

Ні шкадавання і ні болю,
Хоць выжывае дзень адчайна.
Кажан таемны,
Ды не болей
За вечаровае маўчанне.

А акіян прастору ліжа,
Да сушы хітры ён і ласы.
А мышка бедная, каб выжыць,
Тады на хвосцік паднялася.

Маленькае напяла цела
І, адштурхнуўшыся прыгожа,
На крыллях мышка паляцела…
А мы не можам,
Мы не можам.

***

Мы пакланяемся кожнай сяўбе,
Дні прысвячаем і думкі каторай.
Хочацца верыць,
Што я для цябе
Вынайшаў калісь і поўню, і зоры.

Голас з-пад Нёмна,
З-пад сэрца матыў
Свежым паветрам напоўніцу мне быў.
Хочацца ведаць,
Што верыш мне ты,
Нібы высокаму вечнаму небу.

# Красуні візантыйскія

З-пад паранджы вачыма бліскалі
(Напэўна ж, думалі аб чым),
Ішлі красуні візантыйскія,
Да сэрцаў скрозь дастаючы.

Ішлі танклявыя, высокія,
Недатыкальныя амаль.
І неслі таліі асокамі
Па набярэжжы сініх хваль.

А словы, рухі, крокі тайнамі
Заўжды пакрытыя.
Хаця
Трывалі быць недасягальнымі
На ўскрайку самым пачуцця.

І прамінуў бы вершаў нізкаю,
Не падымаючы павек,
Каб не красуні візантыйскія
І не дванаццаты іх век.

# Восень

Асірацелі лавачкі без нас.
Гняздо пад небам гордае астыла,
Магчыма, назаўсёды
Ці на час
Без песні салаўінай
І без крылаў.

Вазьму баян, нібыта ўпершыню,
Расстроены,
Як сумная прырода.
Не зразумець, каму хлушу, маню,
Баяна ці сябе
Шкада
Ці шкода,

А песні не пакіну, не аддам
На глум, на здзек.
І Муза – гэта выйсце.
О, пані!
О, спадарыня!
Мадам!
На лавачку прысядзем,
Як калісьці.

***

Воблачкам светлым пакліч мяне,
Покуль глядзіць прыгажосць,
Свежая і рамантычная,
Покуль рэальны я ёсць.

Двор напаўняецца словамі,
Што паспрыяюць расці.
Вуліцай ціхай вясковаю
Добра ісці па жыцці.

Потым з інтымнымі вершамі
Сядзеце ў плацці пад клён.
Што мы спыніліся першымі
Тут,
Прыгадае нам ён.

Нібы часінай паганскаю
Зноў падавалася мне,
Што па-над графскай Ражанкаю
Сонца прагляне ясней.

# Перад бурай

Ты насцярожанай пакажашся здаля,
Пагорбіцца зусім сасна крывая.
Зацішша перад бурай
І пасля
Дзеля малітвы шчырай наступае.

Грымоты, пэўна, будуць уначы,
І навальніца сыдзе маладая.
Мы пра галоўнае і дробязі маўчым.
Рассудзіць Бог
Ці хоць паспагадае.

І вось зара шчыруе над жніўём,
Расы жывой жадаючы напіцца.
Давай па ёй
Усё з табой пачнём,
Пакуль у словах
Спее навальніца.

## Гэты час

Зоркі голас, падаецца, чуцен –
Словы, што калісьці гаварыў.
Горыч анамальнага пачуцця
Бэзавыя поўніць вечары.

Жыць, кахаць імкнуліся без фальшы.
Вось і выпускныя за гарой.
Ціха зарастаюць сцежкі нашы.
Дзень прайшоў
І скончыўся зарой.

Гэты час…
За водблеск карацейшы –
На паўнеба, можа, ці на трэць –
Можа прадаўжацца,
Ды не цешыць,
Можа асляпляць,
Але не грэць.

# Чэрвень

У чэрвені ліпай запахла,
На сене мядовы сезон.
Сярэдзіна монаспектакля
Ці ў стадыі вымыслу ён?

Забуду смаркатыя крыўды,
Што думаў і што гаварыў.
Да рук сарамлівае прыйдзе
Каханне юнацкай пары.

А чэрвень мядовы ліповы
Ішоў да палаца за мной,
Каб пахнулі вусны і словы
Да самай зімы
І зімой.

## Паэту

Шалік бясконцы
Асенняга ветру
Вас ахінае і ваш сілуэт.
Толькі чамусьці я верыў і веру:
Будзе шчаслівы
Ў каханні паэт.

Ён летуценнік.
І перад спатканнем
Я яму красак у лузе сарву.
Гэта не страшна, што позна ці рана
Згубіць ці знойдзе
Не раз галаву.

# Броваў чародка

Восень…
І год невядома каторы,
І далягляд у вачах нездарма.
Помніцца сонечны будзе аўторак –
Ясныя клёны,
Усмешка,
Імя.

Побач густыя прыгожыя бровы
Пырхнуць чародкай гусей –
Светлы час.
Сонца сядае за лес вечаровы
І азіраецца толькі на нас.

Гром развітальны за горад пацокаў,
Берагам сосны сплылі дагары.
Броваў чародка
Не ведае покуль,
Ёй адлятаць
Ці кружыць да зары.

# Цыганская радасць

З маёй далоні дробныя манеты
Лічылі вы прыемным летнім часам.
Нібыта марыў паўжыцця аб гэтым,
Каб вы набралі
Нам на радасць разам.

Не трэба мёд
І нават хлеб не трэба,
Бургундскага віна не трэба скрынкі.
Мне б толькі вашага кусочак неба,
Што ў позірку сягоння пад касынкай.

Аж потым праяснілася прычына,
Калі сышліся дні мае і далі:
Вы не манеты дробныя лічылі,
Вы радасці цыганскай
Нагадалі.

***

Цёмныя строі,
Брунетка сама.
Топяць крынічныя вочы.
Ваша стыхія, напэўна, зіма,
Вас нарадзіўшы аднойчы.

Неба над намі схілілася ніц,
Месяц смакуе на пашы.
Тонуць у гурбах
Агні таямніц
Вашых
І з берагу – нашых.

Мы, дачакаўшыся, стрэнем вясну,
Час падабрэе наўкола.
Толькі б мароз незнарок не крануў
Рукі,
Пагляды
І голас.

# Два словы

У поўдзень і позняю ноччу
Патрэбнае нагавары.
Жаночы раўнюсенькі почырк,
Як промень вясенняй зары.

І пальчыкі – светлыя промні –
Баяліся слоў нездарма:
Ідзі, не забудзься і помні
Маё сярод лета імя.

Збылося зусім выпадкова:
Ледзь вецер у соснах замёр,
Да літаркі літарку ў словы
Вязала пад небам
Узор.

Папросіць счакаць хоць хвілінку
Мой добры ва ўсім задыяк.
Два словы…
А знакаў прыпынку
Дасюль
Не расстаўлю
Ніяк.

# Нібы няма…

Ужо званкі гучаць у школе
Ці лета не прыснiла што б,
Вы не пазвоніце ніколі –
Нуда ці радасць,
Ці патоп.

Жыву як ёсць.
Або іначай.
Тут узлячу,
Таплюся там.
Тут я ніхто,
Там штосьці значу.
Вам усё роўна.
Добра вам.

Даў лёс прасторы, часу, волі,
Быць вечным, мудрым, маладым.
Вы не пазвоніце ніколі –
Нібы мяне няма зусім.

***

Пані княгіня,
Ваш піцерскі князь
Кветкі вазіць не прыстане.
Хочацца думаць прыгожа пра вас,
Запамінаць пры спатканні.

Самі на ноч запалілі камін,
Ложак пуховы паслаўшы.
Месяц кранае сягоння адзін
Рукі пяшчотныя вашы.

Бы два крылы, адпусцілі акно
Ў цемру, каб думаць аб нечым.
Як жа садовая свежасць даўно
Вас маладзіла за плечы.

Вось натаміўся чакаць Мапасан
З раніцы вашае ласкі.
Але грукоча карэта,
І сам
Будзіць князь яркія краскі.

Пані княгіня,
Наступіць зіма,
Потым бяссмерце настане.
Выдумаў шмат я чаго,
Акрамя
Вашых вачэй і кахання.

# Берагі

На беразе лета.
З табой
Цудоўная ёсць перспектыва
Нырнуць у яго з галавой
І плыць
На той бераг праўдзіва.

Той бераг – танюсенькі стан
Бярозкі ўва сне
І пры воку.
Той бераг, дзе жыў Левітан,
І мудрая восень навокал.

# У краі зялёным

Ледзь поўня пакоціцца зноў
Па травах,
Па зоркавым пуху,
Як ты дакранаешся слоў,
Люблю, заміраючы слухаць.
Астудзіш дыханнем сваім
Гарачыя моцна і злыя.
Развеш туманы і дым
З халодных, самотных,
І тыя
Жаўронкамі мкнуць да мяне
Пад вокладку часта і густа.
А раніца словы шапне
З тваіх патрывожаных вуснаў.
Затым цішынёю кранеш
Мяне праз дарогі і вёсны,
Каб жыў сарамлівы мой верш
У краі зялёным
Узнёсла.

# Сюжэт

У жыцці сустракаўся не раз:
Ён то гладзіць па шэрсці,
То колецца,
Чорна-белы зімовы кантраст,
Што палоніць душу і ваколіцу.

Пакацілася зёлкай дражэ
Праз стагоддзі дарогаю гладкаю.
Вы ўзнавілі
Літоўскі сюжэт
Востраверхі
Сваёй выцінанкаю.

Назаўсёды паверыў яму,
Як самому сабе
Прад Калядамі.
Мне з ім светла стаяць
Аднаму
Над Віллёю
Спакон далягляднаю.

# У калядную ноч

Помніцца Вострая Брама святая.
Перажагнаешся ў роспачы ты:
Хутка калядная ноч наступае,
Стол мой, аднак жа, занадта пусты.

Тут цішыню пераразвон не парушыў,
Сэрца ў палацы таемна маўчыць.
Прыйдуць апоўначы князевы душы,
Мне частаваць іх, здарожаных, чым?

Грэцкі арэх і пахучая кава,
Праднавагоднія казкі твае,
Снег за акном і мяцеліца нават.
Словаў патрэбных адно не стае.

Як там Нясвіж, Навагрудак і Крэва.
Сена каб жменьку
І водар сяліб.
Словаў прыслузе, бадай што не трэба,
Вернасць і памяць у сэрцы былі б.

Стол атрымаўся тутэйшы.
Аж гладкі.
Неба аздобіць сняжынкай зямлю.
Побач паклаўшы кусочак аплаткі,
Выйду на ганак,
Ліхтар запалю.

Аўтапартрэт намалюе са згоды
Белы мароз па-на шкле для зямлі.
Не дапільную,
Калі, як заўсёды,
Князевы душы былі
І пайшлі.

# І толькі Радзіма

Раздзьмухвае вецер па небе святло,
І сонца запаліцца скора.
Начнога кастрышча калі б не было,
Я б выдумаў месяц і зоры.

Прыдумаў бы песню, вясёлку і ноч,
Малітву і нават крыніцу.
Цябе, непаўторнай, адзінай апроч:
Баяўся б хоць чым памыліцца.

І быў бы прыход мой да месца якраз,
І кожнае слова дарэчы.
Я выдумаў месца сустрэчы
І час,
Самую, нарэшце, сустрэчу.

Сняжынкай пазначыў бы ўсё да бяла,
Апроч чалавека благога.
І нават Радзіма такой бы была
Ад продка
Да Бога самога.

# Якушоўка*

За возерам сумным,
За стомленым лісцем
Відацца на захадзе мне:
Кавалачкі сонца яшчэ засталіся
На трэцім паверсе ў акне.

Не спіць Якушоўка ў радках паэтэсы,
Павінен надарыцца госць.
Гучыць па-над краем трагічная меса,
І вёска чакае кагосьць.

Не можа той госць не вярнуцца дадому,
Не быў ён здаўна чужаком.
Радзіма там песні складала малому,
Паіла сваім малаком.

Цяпер яна восені ўскінула сачак**
На плечы – змарозіла ўсё ж.
Чаму ж паэтэса няўцешна так плача,
І дзень мой баліць больш і больш.

Ну, хопіць рыторыкі нуднай
І столькі,
Аж зубр нецярпліва зароў.
Я сам неспакоем жыву Якушоўкі,
Брыду між балот і муроў.

І згодзен, што хмараю чорнаю пойдзе
Надуманы менталітэт.
Хоць вершаў маіх не чытае народзе,
Вядзе ў Якушоўку мой след.

---

*Якушоўка – радзіма паўстанца Кастуся Каліноўскага.*

*** Сачак – жаночая апранаха. Так маці казала.*

# Адзінота

Радок да радка, да абзаца абзац,
Страфа за блакітнай страфою.
Ніколі не думаў, што стане палац
Пустэльніцкай келляй маёю.
Што буду глядзець з таямнічых акон
На свет, бы з чароўнае ложы.
І стане здавацца падраніцу ён
Такім таямніча прыгожым.
Пазведаю ад балюстрад і ад сцен
Цяпло векавога дыхання.
І стануць князёўны чакаць перамен,
Іх баль пад завею настане.
А князь сабярэцца ў Еўропу ізноў,
Праз мосцік да споведзі пойдзе,
Пакінуўшы мне і Тур'і дзікіх сноў
Свайго залатога стагоддзя.
Станіслаў* шпурне на руку паліто,
Сышоўшы пад клёны стамлёна.
І болей не вернецца з іх аніхто
Да вечных высокіх калонаў.

---

**Станіслаў – слуга князёў Друцкіх-Любецкіх.*

***

*Юрку Голубу*

Між маладых нябёсаў, дрэў
Нібыта юны дождж усчаўся.
Мяркуеш, хіба састарэў
Ты пра сябе ў салідным часе.

Не суцяшаць, не варажыць,
Не пазбаўляць бяруся слова.
А ты заўсёды на крыжы
Распяць сябе за ўсіх гатовы.

Ты вінаваты, што зіма
Апошняе патопіць лісце.
Напэўна, іншага няма
Ў паэта перад праўдай выйсця.

І што дажджы на здзек пайшлі
Жнівом якраз, парою ранняй.
Не будзе, пэўна, нікалі
Табе і ў гэтым апраўдання.

Садзіў, бярог нямала дрэў,
А пад акном – наймаладое.
І ты пакуль не састарэў,
Бо сам сказаў, заўважыў тое.

# Напярэдадні

*Алене Пасюце*

Беларускія думкі мае
Вы ў букет падбіралі жывымі.
А дзе красак крыху не стае,
Аздаблялі прыгожа сваімі.

Ні цвіла кампазіцыя дзе,
Дзе прыязную ўсмешку ні стрэне,
У крынічнай чысцюткай вадзе
Беларускасць
Пускала карэнне.

Там пялёсткі да рук, да вачэй,
Прыпадаючы, быццам пара ім,
Станавіліся толькі ярчэй
Па бялюткім прыснежаным краі.

Напярэдадні светлых Каляд
Пад марозным блакітным парывам
Чуць імя ракатлівае рад
Побач з Вашым
Здаўна лёгкакрылым.

Будзе словаў няшмат.
Іх найперш
Бог пасыпаў
Бацькоўскаю жменяй.
Як бясконцы Сусвет,
Стане верш
Мой і Ваш
У імя прадаўжэння.

***

Сонца каціласся ўслед палазам
І люстравалася лыжамі.
Падаравала само сябе
Нам.
Так у завею і выжыла.

Потым мы з ім на вадзе памаўчым.
Там угару паплыве яно лодкаю,
Каб апусціцца затым на плячы
Ліпеньскаю пазалотаю.
Каб падзівіцца табою адной
З томікам Р. Барадуліна.
Не прамінуць па-над Котраю
Мой
Верасень светла-задумлівы.

# У чаканні

Прымусіла зіма пахваляваццa
Пра снег, што выпаў ночаю,
Тугі.
Са сходкаў стагадовага палаца
Змятаю доўга панскія снягі.

Задумлівы і небывала строгі,
Натросшыся ў карэце дапазна,
Нібыта князь вяртаецца з дарогі,
А з ім княгіня,
Юная княжна.

Насвежа ўзыдзе,
Па прыступках пойдзе,
Ледзь кане за пагоркамі зіма,
Марыя…
Ува мне і праз стагоддзі
Славянскае высокае імя.

Ці ж я магу на іх прыезд забыцца
Ў любую белатваруую зіму.
Грымела так жа ў полі калясніца
І дзеду,
І прапрадзеду майму.

Лакействам не прывучаны займацца,
А гэты мне занятак дарагі:
Са сходкаў стагадовага палаца
Змятаю долу панскія снягі.

# Тут

Тут атуліўся нябесны абшар
Па-над святою Гародняй:
Вершы свае прамаўляе святар
Па-беларуску сягоння.

Голас у цемры свячэннем прарос
І спавядаецца роўна.
Слухае класік
І вечны Хрыстос,
Што прызямліўся ля Нёмна.

Чуюць анёлы,
І слухае люд
Годны,
Цярплівы,
Суровы.
Перад Сусветам  нязведаным тут
Добра мне з роднаю мовай.

Упершыню я паэта такім
Чуў,
Бы па краі ён крочыў.
Словы матуліны
Беглі ў радкі,
Стаўшы малітвай аднойчы.

# На Вербніцу

Зноў пасміхацца будуць людзі,
Бо мне ніколькі не баліць.
Ты, прыгаворваючы, будзеш
Замест маці
Вербай біць.

І разумею, што нагодзе
Такой удзячны быць гатоў,
Бо мне тым пруцікам не шкодзіць
Перацягнуць да пісагоў.

Каб помніў ласку, ведаў кару
На цэлы год,
На кожны міг.
Жадаў дабра
І светла марыў
І за сябе,
І за дваіх.

І слёз, і радасці нямала
Было, пакуль расту
І рос.
Галінка Божая кранала,
Глядзеў у вочы
Сам Хрыстос.

# Да Радзімы

Нешчаслівым буду не адзіны.
Хоць прызнацца смеласці стае:
Паўжыцця не ведаў пра Радзіму,
А затым маліўся на яе.
Вольную, як песня на прасторы,
Сумную, як птушка з маразоў.
Лёс яе хацеў чытаць па зорах,
Па вачах
На дзень па шмат разоў.

Дзесьці за гарамі, за лясамі
Рэчка першазданная цячэ.
І блудзілі ногі, вочы –
Самі,
Іншых падбухторвалі яшчэ.

Што ж ты, галасістая, не рада.
Я прыйшоў.
На жаль, не маладым.
На дарогах нашых – нібы праўда.
Не пазнаць у твар, аднак, зусім.

Родныя забыта скрыпнуць дзверы.
Хто тут гаспадар,
А хто з нас госць?
Ты як бы і верыш
І не верыш.
Бы цябе няма.
І быццам ёсць.

За Дзвіной праз ноч вятры дурэлі.
Ім і мне сягоння не да сну.
Як цябе пакінуць на арэлях,
Родную і блізкую,
Адну?

# Прыеду

Зямныя апошнія былі
Шапнуць пры сустрэчы дазволь.
Галоўнае, што не забылі
Мяне
І касмічны пароль.

Не трэба вячэры, абеда.
У выстылы люты найперш
За добрае слова прыеду,
Няхай пакрасуецца верш.

У горадзе гэтым заўсёды
Высокая аўра жыве.
За горы, даліны і воды
Не зманяць, тутэйшай,
Яе.

Тут скрыпка гучала…
І зараз,
Спрабуючы неба нагбом,
Чытаю ад Госпада адрас:
Гародня,
Паломніцкі Дом.

# Першы снег

А мы з табою не маглі
Ні зразумець, ні здагадацца,
Што трэба гэтае зямлі
І стагадоваму палацу.
Адкуль дрымота, шэры сум,
Халодна, гола, пуста вішням.
Чаму няўтульна ў свеце двум,
А трэці, як заўсёды, лішні.

І не прыйшо табе і мне,
Што хоць калі самота кане,
Пакуль не выпаў першы снег
На кветкі, вейкі
На чаканне.

Звіе зіма па-на страсе
Сабе гняздо
І будзе рада.
А першы снег
Мілей за ўсе
Завеі,
Гурбы,
Снегапады.

# «Аве Марыя»

Штосьці забудзецца,
Снегам акрые.
Штосьці паўторыцца,
Але не так.
Клас адзінаццаты,
«Аве Марыя»,
Зачараваны красой Максім Танк.

Не манастыр старажытны, не келля.
Сёлетні дзень на падлёце і год.
Стане на сэрцы надоўга нядзеля,
Сонца на твары,
На вуснах жа мёд.

Сядзе анёл на святой пірамідзе,
І маладосць усміхнецца сама.
Вобраз пад звоны высокія ўзыдзе,
Светла прыпомніцца ваша імя.

Дні палічу.
І зусім выпадкова
Пад маладзік і густую расу,
Нібыта ружы, найлепшыя словы,
Дагадаваўшы ў душы,
Прынясу.

Выспее рунь у мароз на Пакрова,
Зоркі на небе,
Спагада ўваччу.
Аве Марыя…
І я, вечаровы,
Болей маўчаць наўздагон
Не хачу.

Рукі і вочы, і грудзі такія,
Колькі не выпадзе далей жыцця,
Кормяць, кахаюць…
О, Авэ Марыя,
Не забывай
Азірнуцца
Хаця б…

***

Чамусьці жадаю прызнацца
Лірычнай сваёй старане:
Дануту Бічэль у палацы
Чытаць сімвалічна ўдвайне.

Ляцяць журавы без прыстанку –
Відацца з вялікіх акон.
На ганку Марыся і Янка,
Яна маладая
І – ён.

Два крокі да светлай радзімы,
Да Нёмна не болей, чым тры.
Каб бачыць, дзе ногі вадзілі,
То хмары з нябёсаў сатры.

Зайздросціць высокай сталіцы,
Любові, каханню…
О, не.
Хутчэй побач з ёй падзівіцца
Бясконцай вясне будзе мне.

Пад вокладку роднае хаты
Тут не зазірнуць я не мог,
Каб ведаць,
Што гэта пачатак
І песні,
І дня,
І дарог.

# Белы каўнерык

Яшчэ стагоддзе праміне,
А я маленству светла веру.
Прысніўся сёння ясна мне
Шапэна юнага каўнерык.

Той белы-белы, што трымаў
Ягонай п'есы падбародак.
А навакол свяціўся май,
Ішоў на гукі горад родны.

Плыла па музыцы вясна.
Дзяўчынка з кветкамі
І вэлюм…
І што было б, каб не яна,
І не каўнерык белы-белы.

# Паломнікі

*Людміле Рублеўскай*

Усё дарэшты выпадкова.
За снегападамі пабег
І цень апошніх дзён зімовых,
І Ваш пушысты срэбны смех.

Сталіца – Вашая калыска.
Утульна там
І цёпла там.
Я ж дзесьці тут,
Гародні блізка,
Зайздросціць буду ціха Вам.

Яшчэ штодзень гартаць газету
Нарэшце стану нездарма:
А раптам словы і партрэты –
Пад Ваша добрае імя.

Усё паўторыцца з гадамі
Для ўсіх зараз
І для дваіх.
І толькі знічка нагадае
Дарогі нашай светлы міг.

Прыходзіць час ва ўтульнай зале
Таго спаткання аднаго,
Дзе мы паломнікамі сталі
Да слова роднага свайго.

# Прадчуванне

Мне нажурчэла крыніца,
Жаўранак цвердзіў пра гэта:
Штосьці павінна адбыцца
Ў сіняй бясконцасці свету.

Зоркі, аднак, не знікаюць
Болей няхай з-пад нябёсаў.
Здымкі жаўцеюць на памяць,
Дзе я шчаслівы і босы.

Пахнуць дарогай святліцы,
На падаконніку – краскі.
Не перастануць іскрыцца
Згадкаю вочы
І ласкай.

Штосьці адбыцца такое
Ў свеце бясконцым павінна.
Бог дакранецца шчакою
Да сінявокай краіны.

# Над кнігай

Дзень і ноч бяруцца дзёрзка ў рожкі
Ды пад даўні родны покліч.
Прамаўляе князь навагародскі,
А чуваць,
Што – Генрых Далідовіч.

Смягнуць вусны,
І згарае цела.
Нам бы ў Рэнесанс вярнуцца варта.
Князь цалуе Любку вечар цэлы,
А смакуе вытанчана аўтар.

У мурах, дзе зорка спіць старая,
Гоіць раны вецярок асенні.
На парозе раю памірае
Князь.
І з ім пакутуе пісьменнік.

Іх дарогі зводзілі зачаста.
І тады пад звоны,
І сягоння,
Каб плячо ў плячо
Адстояць княства
Пад штандары велічнай Пагоні.

# Жанчына ў чорным

Сябры высакародныя мае,
Трывае скрозь нябеснае павека,
А Ігара Жука нам не стае –
Прафесара, рупліўца, Чалавека.

Вялікі Нёман стаў тады хмурней,
І горад запаволіў крокі злёгку,
Калі згубіўшы ўсмешку,
Пабяднеў,
Бы неба
На няўрымслівую зорку.

Між намі сталі толькі дзве зімы.
Па Млечным Шляху,
Нібыта па пляцы,
Пайшоў адсюль паломнікам,
А мы
Вярнуліся, яго каб дачакацца.

Навошта неразумная зіма
Прыходзіць на яго прыступкі мела.
Не бачыў аніколі, а пазнаў
Жанчыну ў чорным
У Сусвеце белым.

Ні ўчора і ні сёння не прыйшоў.
Не запрашаю, не віню, не дакараю...
Касынка легла чорная лясоў
На лоб зіме самой
І небакраю.

# На радзіме

Дзень да дня ішлі патрошку.
Пад акном, дзе шмат цяпла,
Камсамольская бярозка
Да партыйнай дарасла.

Ні засечыны старэчай,
Вецце – ласкай на плячы.
Я прыехаў на сустрэчу,
Не пазнаю ні па чым.

Вецер, сябра твой тутэйшы,
Да марозу і слаты
Для цябе складае вершы,
Падбірае свой матыў.

Мы сябе ўспамінам лечым
І дарогаю наўпрост.
Калі выпала сустрэча,
Ні прычым гады, узрост.

Хата пойдзе Шляхам Млечным,
Дзень утопіцца ў акне.
Ты ж карэннямі навечна
Ў маладосці
І ўва мне.

Дык чаму ж тады раптоўна,
Бы ў калодзежы, на дне,
Зажурыўся сон у кроне
Пра цябе
І пра мяне?

# Помніць пачынаю

Калі мне сумна і трывожна
І ўверсе зор не разбярэш,
Калі не думаць мне не можна,
Я пачынаю помніць верш.

Яго шляхі, дзе ўранні крочыў,
І ўвечар стрэнуў аднаго.
Яго задумлівыя вочы
І заклапочанасць яго.

Сумненні, роспач і расстанне,
Апошняй рыфмы перазвон.
Там ён нанова марай стане,
Урэшце, будзе вершам ён.

Калі грымела ў перапонках
Усенародная любоў.
Калі прад роднаю старонкай
Быў без хрыбта я,
Без зубоў.

За што люблю і памятаю
І ад згрызотаў захіну:
Там ты жывеш заўсёды тая,
Якую стрэў упершыню.

Нібыта ясень прыдарожны,
Святло галінкаю пасеш.
Калі мне сумна і трывожна,
Я пачынаю помніць верш.

# Мне Вас шкада

Быў верасень на словы не такім
Багатым
І на сонца дужа рэдкім.
Мне Вас шкада,
Таму што скразнякі
Са свежым урываюцца паветрам.

Лягчэлі кроны,
Думалі яны
За жураўамі паляцець над полем.
Мне Вас шкада,
Таму што будуць дні
На твары незнаёмыя ўсё болей.

І застаюся паміж зор адзін
На ростанях зямных,
Але на волі.
Мне Вас шкада,
Бо жураўліны клін,
Як міг,
Не паўтараецца ніколі.

Не трэба мне паўсвету аднаму,
А Вам бы – журавінныя каралі.
Мне Вас шкада,
Напэўна, і таму,
Што Вы былое сёння шкадавалі.

# Хрышчэнне

Бог паслаў.
І сыходзіў Ён сам
Да людзей пад нябесныя гоні.
Акунаецца ў свой Іардан
Па магчымасці кожны сягоння.

А затым пазірае здаля
На нябёсы праз водсветак тонкі:
Там у кожнага зорка свая
І нябесная збоку –
Палонка.

# Запрашэнне

А вам зімовы камуфляж
Пасуе казачна, былінна.
У навагодні порцік наш
Зайдзіце хоць бы на хвіліну.

Ля старажытных ціхіх сцен
Заззяюць думкі, як караллі.
Яны навеюць перамен,
Якіх вы, можа, не чакалі.

А ты маўчаць ужо гатоў,
Хоць у акне здавён – нікога.
Тут ажывае значнасць слоў.
І кожны здымак – як эпоха.

Вы ролю даўнюю сваю
Прыпамінаеце, вядома.
Я ж вас і так не пазнаю,
Бо мы ніколькі не знаёмы.

Не прапаную макіяж,
Ваш вобраз ранішнім пакіну.
У навагодні порцік наш
Зайдзіце хоць бы на хвіліну

# Калінаўка

Як ціха тут паўсюль і чыста,
Наўсцяж – азіміны рады.
Звазіў, нарэшце, у дзяцінства
Цябе,
І памяць,
І гады.

Былі  грудок, ставок і сцежка,
Чамусьці сабачук руды.
Цяпер ляжаць уперамешку
Каменне, дрэвы і сляды.

Тут засталося біцца сэрца
І не канчаецца зіма.
Усё Калінаўкай завецца,
Хоць ані ягадкі няма.

Туманам засціць моцна вочы.
Але ж павыраслі калі,
Мы захацелі жыць аднойчы
Інакш
На гэтае зямлі.

Здалёку, крыху наравіста –
Нам пажадалася таго –
Мы падрулілі да дзяцінства,
Аднак –
Ні вокнаў,
Ні яго.

# Вечная Раўнавага

Ты празмерна палюбіла лотаць,
Я – суніцы, журавіны – вы.
Журавы крычалі на балоце,
А пра што тужылі журавы?

Не было чаму ў лясах дзівіцца,
Як здаўна, чым ночы карацей,
Помсціла загнаная ваўчыца
Чалавеку за сваіх дзяцей.

Плоць вулкана раптам не астыне,
У даліну мкнецца праз гады.
І сарвецца воблака пустыні,
Кане немаведама куды.

Будзеш ты задумлівы і горды,
Паўтару цябе ва ўсім якраз.
Раўнавага Вечная прыроды
На світанні не пакіне нас.

# Клопат

Не даражэзныя каралі,
Не галасы, не звон, не песні –
Пільную ноч,
Каб жа не скралі,
Каб ноч зладзеі не панеслі.

Зарніцаў сполахі ганю я
І гром суцішу ў кронах гулкі.
А заадно цябе пільную,
Твой сон
І правільныя думкі.

Маўчанне рэчкі, лесу, поля
Тут, як магу, засцерагаю.
Гняздо буслінае
І волю,
І памяць стомленага краю.

Не спіць са мной да ранку сэрца,
І зберагаюць лета дуплы,
Пакуль наводшыбе пасецца
Твой дзень мінулы
І наступны.

# Па-людску

*Андрэю Майсяёнку*

Гары, гары, святло ў акне,
Калі зіма,
Калі трывожна.
І не згасай на радасць мне
І ўсім прахожым, калі можна.

Не прэцца галаве на злом,
Не галасуе і не енчыць,
Жыве ў далонях
І за шклом,
І зоркай сціплаю
Агеньчык.

Каб заглушыць у сэрцы страх
Прад доўгім хобатам-смуродам,
Яго і вынайшаў яцвяг,
Мой у жыцці дасціпны продак.

Вучыўся летаў шмат і зім,
Каб ні замала, ні замнога:
Вось сонца яснае,
За ім
Дарога йдзе да Пана Бога.

Два сэрцы іскра перамкне,
І Светач пусціць пагалоску:
Гары, гары, святло ў акне –
Жыві па-людску
І па-боску.

# Раніца

Зялёна-белым цёплым маем,
Калі на сэрцы добра мне,
Павека неба падымае
І на мяне глядзець пачне.

Зрачок агністы сонца свеціць,
Глядзець у вочы не дае.
І цёпла мне ў блакітным леце
Ад ласкі зорнае тае.

А да ўсяго ты скажаш слова –
Пагляд запомніцца навек.
І кожны дзень
Сусвет нанова
Ляціць удалеч
З-пад павек.

***

Імгненнем кожным даражу,
Бо тут, на ўскрайку, на памежжы,
Належу снегу і дажджу,
І сонцу дайнаму належу.
І дням, калі цвітуць яны,
І туманам, пахучым зрэдку.
І ад зямлі да вышыні
Табе належу
Кожнай клеткай.
Тут – Котры, Нёмну,
Там – Дзвіне.
І кожнаму штодзённа сэрцу
Хапае пекнага мяне,
Самому ледзьве застаецца.
Мой голас крыху паслабеў,
Але ў вясеннюю пару я
Гляджу раўніва на цябе,
Ці не занадта ўжо шчырую?
Што лепш, цяпер не разбярэш,
Калі прыйшла сюды жанчына:
Дэмакратычны мой учынак
Ці драматычны крыху верш?

# Была сустрэча…

Была сустрэча.
І шматкроп'е…
Так пачынаецца ў жыцці
Мой верш-паэма
І кароткі,
Што нібы поле перайсці.

Была сустрэча ў трэцяй школе,
Дзе ён адданасці шукаў.
І надавалі яму волі
Чыесьці вочы і рука.

Зайздросціў ён імклівай птушцы,
Пад ранак снілася краса.
Яму хацелася вярнуцца.
А каб вярнуцца –
Ён пісаў.

Пагляд радкоў кранецца толькі,
Ляцяць – прасторы не стае –
Яму насустрач біятокі
Сакраментальныя яе.

Спадзевам жыў на сны і памяць,
Куды б дарогі ні вялі,
Што там яго яшчэ чакаюць
У трэцяй школе,
На зямлі.

# Боль

Вечар не позні, не ранні,
Травеньскі чысты.
Вожык плыве на спатканне,
Не баючыся.

Вочы і гулкія крокі,
Вартыя жалю:
Я з-за вугла ненарокам
Перашкаджаю.

Вожык свой шанец упусціць.
Колькі іх мала…
Упершыню мне чамусьці
Сорамна стала.

Можа, глыбокаю ноччу
Прыйдзе да міскі.
Боль, што стаіўся камочкам,
Родны і блізкі.

***

Лета прайшло.
Жыць хвілінамі тымі.
Будуць сустрэчы жаданыя зрэдзь.
Хутка вяршаліны стануць шклянымі,
Наканавана іх нам адагрэць.

Каб на вясну зварухнулі пупышкі
Сонца і вецер
Якраз пад буслоў.
Нам бы світанкаў адкладзеных крышку,
Крышку хаця б недаказаных слоў.

Мы зразумеем аднойчы раптоўна:
Нам бы па снезе – хутчэй і хутчэй.
Вы – на арбіце высокае поўні,
Я – на адлегласці
Вашых вачэй.

# Сягоння

Даўным-даўно пужаліся зімы.
Цяпер і кроны, і зямлю разгойдаем.
Багатыя з табой такія мы,
Што лічым час ужо
Дзесяцігоддзямі.

Махнём рукой заўчасна, неўпапад
І зверымся з гадзіннікавай вежаю.
Як не стагоддзе ўсё было назад,
То ў веку памінулым прызаснежаным.

Усё нашмат складаней і прасцей,
Калі снягі на дол сыходзяць гладкія,
І ты, і я сягоння за гасцей
Падзелімся гадамі
І аплаткаю.

***

З другога берага агні,
Бы ёсць сваяцтва паміж намі,
А да мяне вадой яны
Дарожку светлую праклалі.

Тут небу зорнаму прастор.
І не падумаеш аб нечым,
Плыве дарожкаю да зор
Дурная качка
Шляхам Млечным.

***

Было рыштаванняў замала
Да колераў,
Слоў дарагіх.
Багемная восень стаяла –
Ні роспачы і ні тугі.

Так, зрэшты, заўсёды вялося:
Барвовай на смак цішынёй
Прыходзіла зорная восень
Цяжарная крышачку мной.

# У дарозе

Свет маленькі,
А затым вялікі
Будаваў і сам,
І талакой,
На падмогу ластавачак клікаў.
А тваёй чароўнаю рукой
Хоць на міг ці хоць бы на хвілінку
Летам і спагаднаю зімой
Уплятала Рось сваю касынку
Ў лёс зялёны беларускі мой.

Млын ні славы, ні казны не верне,
Не патрушчыць нават валаска.
Што яму…
Малоў пшаніцы зерне
І на пыл стагоддзі прапусціў.

Еду, каб грахі мне адпусціла
Старана з-пад воўчае гары,
Дзе твая Калінаўка свяціла
Гронкамі чырвонымі зары.

На пагосце сцішаным пабуду,
Атмасферны выраўняю ціск.
З-пад аблок спускаўся Навагрудак,
Выплываў з легенды Ваўкавыск.

# Восень

Стаяла восень ля парога,
Неадэкватная прычым.
Бо, акрамя дажджу, нічога –
Ні аргументаў,
Ні прычын.

І дзе знікае восень тая,
Што скрозь туман, слату і дым
Да небакраю –
Залатая
З паэтам побач маладым?

# Тры жаданні

Апошні дзень нібы сягоння
Сышоў з нябёс на горад наш:
Зрывае з месц праднавагодні,
Нясе людзей ажыятаж.

Усмешкі, музыка і госці –
Усё адно да аднаго.
І не хапае мне чагосьці,
І сам не ведаю чаго.

Снег на стагоддзі пухам ляжа
Непадалёк тваіх вачэй.
Няма гарантыі, аднак жа,
Што ўсё паўторыцца яшчэ.

Злятаюць фразы часам колка,
То прымірэнне настае.
А трэба толькі ў хаце ёлка
І тры жаданні
Пад яе.

# Сам Бог

*Паліне Бекіш*

Шаптала росная трава,
Казала не за вочы:
– Цябе сам Бог пацалаваў
У цемечка аднойчы.

І слухаў, слухаў Сам затым,
Не робячы ні кроку,
Пра свет забыўшыся зусім…
І мы, анёлкі, –
Збоку.

# Дачушкі

Ладзіць паэму славутую час –
Слова да слова.
Вашы дачушкі падобны да вас
Абавязкова.

Ніву прыгорнуць рукой у спакой,
Выднее толькі.
Неба прывецяць за соннай ракой –
Зорка да зоркі.

І не ўпадуць прад Венерай самой
Позіркам смелым.
Так, як і вы, у спякоту, зімой
Дбалі, умелі.

Ускалыхнуць залатыя вякі –
Думка да думкі.
Будуць услед мне глядзець з-пад рукі
Вечарам гулкім.

Словы, стагоддзі, прастора і лес
Шчасцем намоклі.
Вашы дачушкі пры маме
І без –
Кропля да кроплі.

# Перапынак

Прайшло маіх гэтулькі зім,
Як след ад парога зачаўся.
Бяру перапынак ва ўсім:
У словах, дарогах, у часе.

Мяне не чакайце цяпер,
Ні вочы,
Ні гусі,
Ні зоры.
Я дзікі на вольніцы звер,
У пушчы прыжыўся каторы.

А людзі спаткаюць ля рэк
Сляды, што здадуцца сваімі.
Я снежны цяпер чалавек
Без хаты, прапіскі, без імя.

Малюся агню і вярбе,
Забуду і славу, і крыўду.
І толькі насустрач табе,
Успомніўшы светлае, выйду.

Ва ўсім перапынак,
Але,
Калі загрукочуць ільдзіны,
Там будзе ўзыходзіць
На шкле
Дыханне
Маё
І Радзімы.

## Непаразуменне

А восень не бывае без дажджоў,
Нібы каханне позняе зямное
Без непаразуменняў.
Я прыйшоў
Сказаць пра тое нам абоім.

Прад намі надакучлівы дождж.
Ён
Таемным ценем стаў асеннім.
Яшчэ між намі – шэры голы клён,
Нібыта непаразуменне.

# Табе

Наплывае вачэй неспакой
Ад часоў,
Дзе Міндоўг, Віцень, Вітаўт.
Заставацца прыгожай такой
Удавалася
Як менавіта?

Выпраўляла, каб потым сустрэць
З-пад Масквы і з-пад Грунвальда стала.
Не згаджалася з вечнасцю смерць
І сама прад малітвай канала.

Пазбягала суроваю быць,
Несла ў храм запаветныя тайны.
Паспявала кахаць і любіць,
І саромецца сентыментальна.

Падбірала навокал сама
Белы колер, чырвоны і сіні.
І насіла святое імя
На радзіме святой Еўфрасінні.

Падаваўся той час залатым,
Быў без нотаў выразным і звонкім.
Ад'язджала і крыўдзіла тым
Пазаранкі, мяне і старонку.

Нараджала, туліла душой,
Гадавала для кожнай нагоды.
Заставацца прыгожай такой
Удавалася
Як
І заўсёды?

***

Дні праляцелі.
Цябе апрача,
Чым заклапочана памяць.
Дзікія грушы, і глог, алыча
Ў цёплых руках даспяваюць.

Глянеш,
Успомніш…
А потым з зярнят,
З костачкаў тых пераспелых
Вырастуць
Дрэвы і цень
Наўздагад,
Каб ты схавацца дзе мела.

# Мелодыя ў акне

І калі б сюды я ні прыйшоў,
Светла, разняволена сумую:
Ціхі вадаспадзік валасоў
Амалодзіць зноў цябе самую.

Будзеш слухаць музыку сваю
І не ведаць, што планета кружыць,
І што я каторы час стаю,
Гукі засланяючы ад сцюжы.

Космас каб не лашчыўся да рук,
Да тваіх,
Маўклівы і трывожны,
Як умею, словы падбяру
Да мелодыі між намі кожнай.

Ты пайшла.
Меладыя ў акне
З добрымі вялікімі вачыма
Нагадае злёгку пра мяне,
Каб вярнуцца
Ўсё ж была магчымасць.

***

Зямлёй і небам запраўлялі сілы
Нам невядомыя якраз.
Ці Вы мяне на танец запрасілі,
Ці музыка сама абрала нас?

Уздоўж дарог азімыя і пожні
І вершы час ад часу незнарок.
Мой з Вамі танец першы і апошні,
Нібыта школьны колішні званок.

На скрыжаванні вечна каляровым
Зімой і летам –
Свежыя сляды.
Гучыць дасюль мелодыя,
А словы
Патрэскалі на вуснах,
Як тады.

***

*Таццяне Давідовіч*

Мы тут былі пры добрым часе –
Жанчына светлая,
Музей.
І што ні год, то твары ў класе
Тут маладзей і маладзей.

Ашмянкі воблакі кругляюць
Сярод святых,
Сярод жывых.
Жанчына светлая
І памяць
Не пакідаюць ні на міг.
Для іх дваіх маўчала зала,
Лілося вечнага святла.
Адна пра вечнае казала,
Другая вечнасць берагла.

Слата, самота ці завея,
Калі надарыцца наўкруг,
Кляновы ліст не бранзавее,
На памяць што з жаночых рук.

Зноў прывядзе сюды дарога
Ці ціхі радасны ўспамін,
Тут не змянілася нічога,
Нам стала больш на год адзін.

## Той дзень

Ні думкі, нават ні гады –
Не замінае больш нішто мне.
Чаму ж раз'яснена тады
Цябе, далёкую, прыпомніў?

Ужо абвугліў лістапад
Каштаны, ліпы прад зімою.
Я дзіцянём дарослым рад
Быў побач дзень адзін з табою.

Вось-вось усё скуе мароз,
Апроч чакання і спакою.
Не ведаў я, што памяць скрозь
Бывае светлаю такою.

Чужая мова.
Божы храм.
І кіламетры паміж намі.
Яшчэ чамусьці тут і там
Жывуць вулканы і цунамі.

Па небе зоркі дзе-нідзе
Плылі да ранішняга вусця.
А лістападаўскі той дзень
Усё наперадзе чамусьці.

# Ружы

Ружы наструнілі шыі
Ўвысь, дзе хмурынка жыве.
Пырскі фантана свяжылі
Добрыя словы твае.

Неба палюбяць ракеты,
Нам на зямлі не найгорш.
Ты расказала пра гэта,
Я напрыдумваў пра дождж.

Восень, нібыта падзею,
Нам маляваць.
А найперш
Па небасхіле нядзеля
Сонцам кацілася ў верш.

Дзесьці ўзыходзілі ружы
Часам адным на дваіх.
І не хацелася рушыць
Светлай ідыліі міг.

# Вы прыходзьце

Вы вяртайцеся дзяўчынкай.
Тое ўбачыць хутка мне б.
Скрылік белай аблачынкі
Нам намазваю на хлеб.

Вас пазнаю і прызнаю,
Слова скажаце калі.
Будзе радавацца з намі
Дзень наступны і былы.

Казку доўга буду баяць
І на лузе даганю.
Вершы свежыя на памяць
Пачытаю ўпершыню.

Мроіў небам дуб маленькі,
Дакрануўшыся пляча.
Хвалявалася сукенка
Светла летам па начах.

Тут гадоў далёкіх ціша
Дрэмле ценем пры сцяне.
Вы прыходзьце,
Прыхапіўшы
З песняй
Хлопчыка,
Мяне.

***

Усё так проста і складана:
Прыемна вам
І добра мне.
Ні для каго тады не тайна,
Што разам лепей удвайне.

Бо навакол на ўсмешку болей,
На слова добрае яшчэ.
І сэрца лішні раз на волі
Спрабуе танец для вачэй.

Сыходзіў год.
Але ў сутоннях
Той голас з часам не слабеў.
І я шукаю слоў дастойных
То ў вас,
То ў кніжках,
То ў сабе.
І не знаходжу, як заўсёды,
Пакуль у снежнай старане
Вы незалежна, годна, горда
Не заўважаеце мяне.

## Свята

Туман ападае і дым.
Відушчае, чуткае сэрца.
Ніколі спакойным такім
Не быў і не буду, здаецца.

Два словы вярнулі назад,
На месца, былое святое:
Прыснежаны квеценню сад,
Пачуцці ў блакітным настоі.

Прасіла паглядам: ”Прыходзь…”
І рэха са мною бясконца.
Стварыў дзеля ўсмешкі Гасподзь
Цябе
І высокае сонца.

Спадобіцца ніцай вярбе
Зара.
Не забудзеш такую.
Паклікаўшы верш да сябе,
За стол пасадзіў.
І святкуем.

# Светлая раніца

Як напісаць пра цябе,
Не параніцца?
Дзе тыя думкі, жаданні і словы?
Будзе для гэтага светлая раніца,
Вечар настане, нарэшце, мядовы.

Выберу песню жаўронка найлепшую,
Краскі ярчэйшыя на даляглядзе.
Поле прайду залацістае пешшу я,
Пах збажыны па-на рыфме асядзе.

Зоркі звяду на дасвецці палярныя
Краскам і песням на добрую помач.
А напісаць пра цябе нерэальна мне,
Покуль твой погляд і голас не побач.

# Маё жаданне

Тут значаць кветкамі двары,
Перабіраючы ружанцы.
З якой нагоды і пары
Мне жыць хацелася ў Ражанцы?

Ступаць па Пацавай зямлі,
Гнаць з баразён варонаў чорных.
І думаць, думаць, ты калі
Фіранку белую адгорнеш.

Астыне прас,
Ліповы чай,
Пакуль збіраешся ў дарогу.
І будзе роспач і адчай
Знікаць чыгункаю патроху.

Дачка дазубрыць нудны верш,
Світаць званіца ў небе стане.
І ты ў вагоне павязеш
Насустрач мне
Маё жаданне.

# Ты і верш

Мне падабаецца, што верыш:
На гэтым свеце мы адны.
Па слову роднаму,
Па вершу
Збірала ў сонечныя дні.
Пяшчотна рукі падбіралі
І вочы, колькі поўдзень плыў,
У пацеркі,
Вянкі,
Каралі,
Каб пад вясёлкавы матыў.

З шуфляды і з-пад пакрывала
Праз ноч вымала,
Хоць на міг.
Нібы па тварах,
Пазнавала
Па рыфмах,
Вобразах ты іх.

Ты бачыш вернасць,
Чуеш згоду,
Плячо сяброўскае яго.
Бо верш прыходзіць назаўсёды,
Ён з дома болей ні нагой.

Ён твой і мой –
Мы помніць будзем.
Не абібока, не гультай.
А на дарогу добрым людзям
Не пашкадуй,
Перачытай.

***

Неба наранку шырэй і глыбей,
Спаць не збіраецца вечар.
Чым жа пакрыўдзіў учора цябе,
Не здагадаўся аб нечым.

Мне спавіваць,
Як дзіця, дапазна
Верш для цябе адмысловы.
І на сябе не падобна вясна
Позіркам, крокам
І словам.

Горад не родны.
І вецер чужы
Хмараў не можа напіцца,
Зносіць з вачэй у пясок капяжы,
Што нараджалі крыніцу.

Але рыхтуе ўваходзіны шпак,
Зайцаў касцёр на паляне.
Будзе назаўтра ў ваколіцы так,
Як
Пры сустрэчы ты глянеш.

Вернецца потым пад сонца здалёк
Напаўзабытая вера.
Кроны захмеліць бярозавы сок,
Вуснаў
Спахопіцца
Бераг.

***

Ні граніц няма і ні мяжы
Па-над намі зорнае сяўбе.
Светлы павучок наваражыў
Песню,
І Купалле,
І цябе.

Сумны промень на маім стале
Разам з сонцам памаленьку згас.
І гадуе кветку надалей
Дзесьці ноч купальская
Для нас.

***

Ціха прыйду хоць здалёку пабачыць.
Так пашчаслівіла мне аднаму:
Нізкі тапчанчык у поўдзень гарачы
Суму далонь падстаўляе твайму.

Выйшла насустрач.
І дзень сарамліва
Словы забыўся,
Разгублены быў.
Гэта маленькае простае дзіва
Зноўку паўторыцца,
Сонца нібы.

Так усміхаецца раніца летам
З кожнай хвілінай ярчэй і ярчэй.
Ведаеш ты пры сустрэчы пра гэта
І не шкадуеш ні дум, ні вачэй.

Буду нанова і лоўкі, і шпаркі,
Каб здагадацца прыдбаць над зямлёй
Мяккае крэселка
Воблака-хмаркі
Суму твайму
І Радзіме маёй.

# Пачатак

Нібыта першаму дзіцяці,
Я вершу нашаму так рад.
Давайце святкаваць, давайце
Да дня яго
І неўпапад.

Ты на дваіх абрус засцелеш,
Я на дваіх накрыю стол.
А захвалюецца наш келіх,
Мне слова ціхае дазволь.

Каб рыфмаваць у вечар гэты
Тваё імя, збудзіўшы сны,
То з квеценем былога лета,
То з галасамі той вясны.

Якая быль, якая тайна,
Калі па часе залатым
Дзень нараджэння верша
Стане
Маім пачаткам
І тваім.

# Першы раздзел

**1**

Ні князь вялікі ён
І ні баярын,
Ні ў шляхцічы з гадамі не ўзвялі.
Прыгожа думаў, разумеў і марыў
Спадар прынавагрудскае зямлі.
Спадар Сяргей шукаў для песні слоўка
І фарбаў самавітых для вачэй,
Каб сталася ягоная Літоўка
Па Беларусі ўсёй
Найпрыгажэй.
Здагадка…
Ёй навечна запыніцца
Тут, на радзіме, яўнае амаль,
Дзе пад гарой бруілася крыніца
І прадзед быў не Коваль,
А Каваль.
Ён над сярпом карцеў і завушніцай
І выкаваў над краем маладзік,
Каб людзі мелі хараства напіцца,
Хто б ні прыйшоў,
Душою ні прынік.
Заплюшчу вочы на хвілінку толькі,
Хаця гады ідуць шпарчэй, жывей,
У памяці прыгожая Літоўка
І на прыпынку ён,
Спадар Сяргей*.

---

**Літоўка – аўтобусны прыпынак ля Навагрудка і літаратурны вобраз. Сяргей Коваль – аўтар рукатворнага прыпынку Літоўка.*

**2**

Тут запыніцца хтосьць прыдумаў лоўка,
Было заўжды нямерана прычын.
Сягоння Голуб, я і Дубатоўка
Пад Навагрудкам думаем,
Маўчым.
За сонцам тут на грозны замак строга
Міндоўг у шоламе спяшаўся на кані,
Жанчына пераходзіла дарогу –
Літоўка.
Хоць паклонам запыні.
Блудзілі галасістыя паэты,
Дубы танулі ў Свіцязь дагары.
Легенды і пра тое, і пра гэта
Займаліся ля Замкавай Гары.
Пякло з вышынь
Ці ў ногі стане золка,
Цяклі аблокі, воды і гады.
Прысела светлатварая Літоўка,
Князёўнай засталася назаўжды.
Стагоддзі праляцяць без перадышкі,
Запыніцца сівы на ўзгорку князь,
Прыпомніўшы ў малінавым зацішку
Літоўку задуменную не раз.

**3**

Свяжылі ветракі далей дарогі,
Бадзёрыла вяршынямі вясна.
А ў памяці на беразе палогім
Стаяў жаночы вобраз.
Там яна
З-пад раніцы выходзіла і проста

Сцяжынку слала полем з-пад расы.
Імклівая, задумлівая постаць,
Пад белаю касынкай валасы
Чарнявыя.
І з добрымі вачыма,
Якім мудрэц маліўся не адзін,
Пакуль усмешка велічна і чынна
На небакрай усходзіла з глыбінь.
А потым сумавала памаленьку,
Пускаючы аблокі пад руку.
На словы неахвочая паненка
І нават сарамлівая крыху.
Узгоркі расступаліся, аблокі,
Каб мы хутчэй вярнуліся сюды.
А ў памяці на беразе палогім
Жаночы вобраз заставаўся на гады.

**4**

На арфе Дух Лясны вось-вось зайграе
Да нашага падобнае амаль.
І згодна воўчая змаўкае зграя,
І не чуваць тугіх азёрных хваль.
На крэслах тут жа тоненькія блузкі
Застылі ў лёце,
Нібы згустак мар.
Марына Уладзі тоіць сон французскі,
Высоцкі тут на сцэне гаспадар.
– Чарнавікі палю і горка плачу, –
Яго запіска меркне для яе.
Гітары звон над возерам лядачы,
А голасу з-пад сэрца не стае.
Апошні кадр.
Сумуе зранку каня.

А ты, Літоўка, знаеш і маўчыш:
Яго зямля халодная чакае,
Яе затуліць вежаю Парыж.
Была адна хвіліна да фінала,
Пагаслі рампы ў светлай старане.
Жанчына, пэўна, так і не спазнала,
Былі яны шчаслівыя
Ці не?

**5**

На арфе Дух Лясны іграў трывогу.
Нібы агню, што палыхаў кругом,
Жанчына пераходзіла дарогу
Чужынцам
З ратавальным абразом.
Не капяжоў –
Крыві ляцелі пырскі,
Галовы і душа знікалі прэч.
Міндоўгаў сын набытак манастырскі –
Прыйшла пара – мяняў на шчыт і меч.
І сынаў сын, цямнела Поўнач толькі
Ад пылу, дзідаў, злосці і слаты,
Клаў голаў на плячо сваёй Літоўкі
І ўваскрасаў на беразе Літвы.
А засланялі сонца хмары з Поўдня,
Адкуль яно свяціла найярчэй,
Вялікі князь скакаў у латах годна,
Літоўка скрозь не зводзіла вачэй.
Пісалася гісторыя няскора,
І большала навокала святынь.
Вялікая дзяржава паміж мораў
Усходзіла з Навагрудскіх вышынь.

## 6

Жанчыну ў белым,
Можа, у чырвоным
Чакалі, задуменныя, дарма.
Пад гром  і слёзы,
Песні і пад звоны
Яна пайшла,
Пакінуўшы імя.
Людзям, стагоддзям,
Маладому княству,
Табе і мне наводшыбе гадоў.
І сэрцу захацелася па-панску
Падзячным быць, наколькі сам гатоў.
Вярнуўшыся дадому,
Па сталіцах
Сваіх
Маўчаць вялікія  князі.
Нарэшце, ім  вады жывой напіцца,
Літоўка маладая,
Падасі.
Прыпынак той – наезджанае месца,
Жанчына  дзе дарогу перайшла.
І нам зімой суроваю здаецца,
На ўсіх здавён пакінула святла.
З табою намаўчаліся  багата,
Нібы зарок падаўшы перунам.
Разбавіць фарбаў
Раніца над хатай,
І бераг
Свой мальберт
Падставіць нам.

# Другі раздзел

**1**

Спрактыкаваны і крывавы самы
Пад небам там,
Высока, угары,
Тэўтонскі ордэн
Думаў капытамі
Навагрудскія вышчарбіць муры.
Па Нёмне лез,
Дарогамі глухімі,
Аблогаю стаяў – усё дарма.
Не ведаў прагны фон часамі тымі
Давыда Гарадзенскага імя.
А князь вярнуўся з Пскова на Радзіму,
Трывалы духам,
Моцнае плячо.
Вяла яго высокая часіна
Стаць за сталіцу
Сэрцам і мячом.
Пра князя Гарадзенскага пачута
Была легенда ў краі на вякі.
Дачка Літоўкі – слаўная Бірута
Паднесла пераможцу васількі.

**2**

І разгубіўся князь Давыд аднойчы
Пад час непрадказальны, міг такі:
То неба сіняе наўкол,
То вочы,

То васількі з пяшчотнае рукі.
Яна тады ні слова не сказала.
Танклявы стан
І пышная каса.
Яму ж вайны здавалася замала,
Ён наўздагонку ворага крамсаў.
Няшчадны ў гневе,
У памкненнях дужы,
Аўчынаю і верасам прапах.
Вяртаўся князь героем, бацькам, мужам,
Каб засынаць у мяккіх валасах.
Каб памінулі непагадзь і смута,
Прад расставаннем кожнаю вясной
Малілася манашкаю Біруta,
Княгіняй цалавала маладой.

**3**

Хавалі вечары ў палях калоссе,
І паміналі гром і халады.
– Вышэй, вышэй трымай прыгожы носік, –
Ён паўтараў, жартуючы, тады.
Сам быў з неразгаданае любові
Да рэк літоўскіх, гоняў і лясоў.
І толькі моцна хмурыў свае бровы,
Калі чужак з-за Нёмана ішоў.
Пад ранак і на ноч сваёй Біруце,
Вяртаючыся стомленым ізноў,
Казаў пра слёзы, боль і пра пачуцці
Без запаветных выразаў і слоў.
А покуль свет на яснай праўдзе стане,
Не галасі, не кайся, не суроч.
О, як яны любілі на світанні!
О, як кахалі, верныя, на ноч!

## 4

Не забывае князь сваёй Гародні,
Дарогі ні закінулі б куды.
І што ні горад па Літве,
То родны.
І трэба ратаваць яго з бяды.
А дзесьці па няпісаным Статуце
Сабакі рвуць тугія ланцугі.
Падчас расстання сніцца сон Біруце,
Не разгадаць яго,
Бо сумны і благі.
Закутыя ў жалеза, зноў крыжакі
Зрывалі росы роднае зямлі.
Па небе і вадзе сплывалі жахі,
Да нашых дзён пакуль не даплылі.
У адзіноце зведала Біруга,
Там, дзе да зор усходзіла трава,
Зямную і нябесную пакуту,
Пакуль Анёл Айчыну ратаваў.

## 5

Ганец знямог, нібы з вялікай сечы,
Калі ішла высокая вада,
Упаў на дол
І над канём прыўкленчыў:
– Бяда пад Горадняй…
Бяда…
У гневе князь жалобнаю мінутай.
Пагоня праз узгоркі і масты.
І попел дома,
Дзе жыла Біруга,
Ля Нёмна пад сасною не астыў.

Пажарышча…
Сіроткаю сінічка,
Край галасісты разам анямеў.
Там чорнай-чорнай хмарай навальнічнай
Усходзяць помста кроўная
І гнеў.
Яго сумніў ніколі не агортваў,
Ён пакланяўся Знічу – як агню.
…Без слоў і слёз над папялішчам мёртвым
Князь паміраў цяпер упершыню.

# Трэці раздзел

**1**

Пытала кожная хвілінка
І зоркі ведаць мелі ўсе:
Дзе ты, заранaчка-іскрынка,
І дзе ты, сонейка ў расе?
Забіла дых на момант толькі крыўда.
Калі ж крануўся рукаяці князь,
Харугвы Гарадзенскага Давыда
Ўзвіліся над Мазовіяй ураз.
І валуны  раслі за імі проста,
Хто вымераў жыццё за ўсіх
Сабой.
І не расплатай звалася,
Не помстай
Высокае каханне
І любоў.

**2**

Вядзецца так няпісана дагэтуль:
Каб не пайшла гісторыяназлом,
Вятры цішэлі,
Музы
І паэты,
Калі выходзіла
Літоўка
З абразом.

# *Змест*

## 2017. Плячо дажджу

## 2018. Азіміна

## 2019. Берагі Радзімы

**Літоўка. Паэма**

